



# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

11 верасня 2020 года №37 (1324)

18+


# У Вілейцы судзілі педагога за масавае мерапрыемствы

старонка 19

Вольга Шостак на вілейскай плошчы.
Фота забяспечанае гераіняй публікацыі.







Суд паміж дырэктарам гімназіі і назіральнікам на выбарах скончыўся прымірэннем

старонка 5

Выбаршчыкі Маладзечанскага і Валожынскага раёнаў сустрэліся з дэпутатам

старонка 8



Што рабіць, калі вы заблукалі ў лесе

старонка 21


ISSN 1991–7155

9 771991 715006 20037


Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by

# У чэрвені – рэкорд смяротнасці за апошнія пяць год

**У чэрвені 2020 года колькасць смерцяў на 3753 выпадкі перавысіла мінулагодвія паказчыкі па тым жа месяцы. Смяротнасць за першае паўгоддзе гэтага года пабіла пяцігадовы рэкорд, вынікае са статыстычных дадзеных ААН за першае паўгоддзе 2020 года.**

Як паведамляе tut.by, у статыстычнай сістэме Арганізацыі Аб'яднаных Нацый апублікаваныя дадзеныя па смяротнасці за першае паўгоддзе 2020 года. З іх вынікае, што смяротнасць па выніках першага паўгоддзя пабіла пяцігадовы рэкорд.

Варта падкрэсліць, што ў дадзеных ААН не пазначаная прычына смяротнасці. Адпаведна, нельга адназначна сказаць, што рост смяротнасці звязаны з эпідэміяй каронавіруса або іншымі захворваннямі. Аднак па гэтых дадзеных відаць, што ў 2020 годзе ад лютага колькасць смерцяў паступова павялічваецца, дасягаючы самай вялікай адзнакі ў чэрвені. Калі ў 2019 годзе ў чэрвені было 9263 смерці, то ў чэрвені 2020 года – 13 016.

Па дадзеных Міністэрства аховы здароўя на 5 верасня, у гэтым годзе ў краіне памерлі 705 чалавек з каронавірусам. Ад пачатку распаўсюджвання інфекцыі да 1 ліпеня ведамства паведамляла пра 398 смерцяў пацыентаў з COVID-19.

Са статыстычных дадзеных ААН вынікае, што ў другім квартале, на які прыйшоўся пік распаўсюджвання COVID-19, у Беларусі памерла амаль 35,9 тысячы чалавек. Гэта на 5,6 тысячы чалавек больш, чым годам раней. Ад 2015 да 2017 года іх колькасць па выніках другога квартала не дасягала 30 тысяч.

**Паводле tut.by.**




Фота Настасі УТКІНАЙ.

Нельга адназначна сказаць, ці звязаны ўздым смяротнасці з эпідэміяй каронавіруса.

## У жніўні воднасць Віліі была мінімальная

**У жніўні сярэдняя па Беларусі тэмпература паветра склала + 18,6°С, што вышэй за кліматычную норму на 1,3°С.**

Усе тры дэкады былі цёплыя. Цяплей было ў першай і трэцяй дэкадах, сярэдняя тэмпература паветра якіх была вышэй за норму на 1,6 і 1,8 °С адпаведна, піша Белгідрамет.

Мінімальныя ўзроўні вады на асобных участках рэк басейнаў Нёмана, Віліі і Прыпяці наблізіліся да шматгадовых мінімумаў для жніўня.

У сярэднім па краіне адзначаўся дэфіцыт ападкаў: выпала 58,6 мм, або 87% месячнай нормы. На асобных метэастанцыях зарэгістравана 1,5-2 месячныя нормы ападкаў. На працягу месяца ападкі выпадалі вельмі нераўнамерна. У першай і другой дэкадзе жніўня назіраўся моцны дэфіцыт ападкаў: выпала 19% і 42% нормы адпаведна. У трэцяй дэкадзе адзначаўся лішак увільгатнення: выпала 208% дэкаднай нормы.

**Белгідрамет.**

## Знік народны мемарыял у памяць пра Мікіту Крыўцова

ВІЛЕЙКА

**Пра гэта нам паведамілі жыхары горада.**

– 25 жніўня мы зладзілі акцыю ў памяць пра **Мікіту Крыўцова**. Думалі, дзе зрабіць народны мемарыял: на цэнтральнай плошчы ці ля помніка Вілляне. Усё ж вырашылі, што лепш з Віллянай, чым з Леніным. Тым больш, даведаліся, што Вілляна – абаронца нябожчыкаў, – расказвае віляйчанка **Алеся**.

Гараджане прынеслі партрэт, са свечак выклалі імя «Мікіта», паставілі некалькі лампадак. Шмат хто прынесіў чырвоныя і белыя кветкі. Ужо пасля 25 жніўня людзі часам падыходзілі вечарамі да помніка, запальвалі лампадкі.

– Раніцай 2 верасня бачыла, што мемарыял быў на месцы. А калі ехала ля шасці вечара, фотаздымка ўжо не было, жывыя, незасохлыя яшчэ кветкі тырчалі са смецніцы, там жа была і пабітая лампадка, – кажа Алеся.




Фота забяспечана чытачамі.

Так выглядаў народны мемарыял.

Нагадаем, што дэманстранта, фаната ФК «Маладзечна», ураджэнца Вілейкі Мікіту Крыўцова пахавалі ў Маладзечне 25 жніўня. 9 жніўня мужчына быў на акцыі пратэсту ў Маладзечне.

Мікіта не выходзіў на сувязь з роднымі ад 11 жніўня. Апошні раз яго бачылі раніцай 12 жніўня. У Мікіты засталася 5-гадовая дачка. Цела мужчыны знайшлі 22 жніўня ў лесе Партызанскага раёна Мінска.

Аксана **ЯРАШОНАК.**

# У рэгіёне пачынаюцца восеньскія кірмашы

**Ад канца верасня – пачатку кастрычніка ў гарадах рэгіёна пачынаюцца традыцыйныя восеньскія кірмашы.**

На іх індывідуальныя прадпрымальнікі, сельскагаспадарчыя і гандлёвыя арганізацыі прапануюць садавіну, гароднiну, саджанцы, насенне, угнаенні, сельскагаспадарчыя прылады, кулінарныя і кандытарскія вырабы, мясную і малочную прадукцыю, прамысловыя тавары, сувеніры.


Фота з архіва «Рэгіянальнай газеты».

На кірмашах у рэгіёне можна будзе набыць садавіну і гародніну.

**Мы даведаліся, калі і на якіх пляцоўках зладзяць кірмашы ў гарадах рэгіёна.**

### Маладзечна

Як паведамілі ў аддзеле гандлю Маладзечанскага райвыканкама, сезон кірмашоў у горадзе пачнецца ад суботы, 19 верасня, і працягнецца да 1 лістапада. Гандляваць будуць кожныя выхадныя на некалькіх пляцоўках:

на Старым Месце – асноўная пляцоўка;

на вуліцы Ларына, каля СШ №9;

на вуліцы Прытыцкага, за домам №3;

на вуліцы Спаскай (тэрыторыя, прылеглая да гаражнага кааператыва №21);

на паркоўцы, што на скрыжаванні вуліц Міру і Будаўнікоў, побач з рэчавым рынкам.

Рэгіянальны кірмаш правядуць 26 верасня, ад 9:00 да 15:00, на Старым Месце.

### Вілейка

Па інфармацыі аддзела эканомікі Вілейскага райвыканкама, кірмашы ў Вілейцы пройдуць, як і ў Маладзечне, ад 19 верасня да 1 лістапада. Гандляваць будуць на цэнтральнай плошчы кожную суботу і нядзелю ад 9:00 да 15:00. Трэцяга кастрычніка тут правядуць рэгіянальны кірмаш.

Ад 12 верасня да 15 лістапада, таксама па выхадных, ад 9:00 да 15:00 кірмашы запрацуюць на трох дадатковых пляцоўках:

на вуліцы Незалежнасці, каля «Еўраопта»;

на вуліцы Вальнцы, каля былога бара «Бэзавы туман»;

на вуліцы Гагарына каля басейна «Сатурн».

Запланаваныя кірмашы ў Даўгінаве і Іллі.

### Валожын

У аддзеле эканомікі Валожынскага райвыканкама паведамілі, што кірмашы запланаваныя на 1, 11 і 22 кастрычніка. У гэтыя даты яны пройдуць на тэрыторыі валожынскага рынку.

20 верасня і 31 кастрычніка восеньскія кірмашы зладзяць на тэрыторыі каля дзіцячай спартыўнай школы.

### Ашмяны

Традыцыйныя месцы для кірмашоў тут – плошча 17 Верасня і сквер на вуліцы Першамайскай. Вялікі рэгіянальны кірмаш тут правядуць 18 кастрычніка. Плануюць не толькі гандаль, а яшчэ музычныя нумары і атракцыёны.

Раённыя кірмашы выхаднога дня будуць праходзіць увесь кастрычнік па суботах і нядзелях, расказалі ў аддзеле эканомікі Ашмянскага райвыканкама.

### Смаргонь

Вялікі кірмаш «Шчодрай восені дары» ў Смаргоні правядуць 10 кастрычніка на вуліцы Якуба Коласа.

Ад наступнага тыдня гатовыя да працы і наступныя пляцоўкі:

аўтастаянка па вуліцы Юбілейнай, 33;

тэрыторыя каля павільёна «Віёла» ў мікрараёне Карані;

пешаходная зона з вуліцы Гагарына на вуліцу Балыша;

тэрыторыя крамы «Кацюша» па вуліцы Перамогі, 4;

вуліца Якуба Коласа, двор каля крамы «Буронка»;

тэрыторыя крамы «Капеечка» па вуліцы Заходняй, 1;

У Мядзеле і Астраўцы райвыканкамы на 9 верасня яшчэ не прынялі рашэнні аб правядзенні восеньскіх кірмашоў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## РАУС Вілейкі: нашы супрацоўнікі не працавалі на акцыях у Маладзечне

ВІЛЕЙКА
МАЛАДЗЕЧНА

З пытаннем, ці далучалі вілейскую міліцыю да працы на акцыях пратэсту ў Маладзечне 9 і 10 жніўня, да нас звярнуліся нашы чытачы.

Мы задалі гэта пытанне начальніку Вілейскага РАУС **Аляксандру Бяндасаву**. Па яго словах, супрацоўнікі Вілейскага РАУС да працы на акцыях у Маладзечне 9 і 10 жніўня не далучаліся.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



**ЛІЧБА НУМАРА**

**609,7 тысячы**

столькі квадратных метраў жылля ўвялі ў эксплуатацыю ў сельскай мясцовасці за студзень-ліпень 2020 года

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 3.08 | 10.09 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.6459 | 2.6329 |
| Еўра | 3.1397 | 3.0995 |
| Злоты, 10 | 7.1213 | 6.9541 |
| Расійскі рубель, 100 | 3.5758 | 3.4615 |
| Грыўня, 100 | 9.5641 | 9.4611 |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 2.09 | 9.09 |
| Еўра | 3.1000/3.2000 | 3.0800/3.1800 |
| Долар ЗША | 2.6000/2.6800 | 2.6000/2.6800 |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 2.09 | 9.09 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 20,85 | 20,85 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,50 | 3,50 |
| Сасіскі, 1 кг | 8,05 | 8,05 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | 9,50 |
| Карп жывы, 1 кг | 5,20 | 5,20 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 6,30 | 6,30 |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | 5,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 16,90 | 16,90 |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,30 | 2,30 |
| Рыс, 0,8 кг | 2,55 | 2,55 |
| Алей, 1 л | 3,50 | 3,50 |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,50 | 4,50 |
| Маянэз, 400 г | 2,75 | 2,75 |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,80 | 1,80 |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,70 | 1,70 |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,80 | 1,80 |
| Агуркі, 1 кг | 1,50 | 1,50 |
| Бульба, 1 кг | 1,10 | 1,10 |
| Буракі, 1 кг | 1,00 | 1,00 |
| Капуста, 1 кг | 1,00 | 1,00 |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,20 | 2,20 |
| Морква, 1 кг | 1,20 | 1,20 |
| Памідоры, 1 кг | 2,80 | 2,80 |
| Перац, 1 кг | 4,90 | 4,90 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | 1,20 |
| Часнок, 1 кг | 6,80 | 6,80 |
| Апельсіны, 1 кг | 5,20 | 5,20 |
| Бананы, 1 кг | 3,10 | 3,10 |
| Вінаград, 1 кг | 6,40 | 6,40 |
| Грушы, 1 кг | 4,70 | 4,70 |
| Дыня, 1 кг | 2,20 | 2,20 |
| Кавун, 1 кг | 1,70 | 1,70 |
| Ківі, 1 кг | 6,70 | 6,70 |
| Лімон, 1 кг | 4,60 | 4,60 |
| Мандарыны, 1 кг | 6,00 | 6,00 |
| Нектарыны, 1 кг | 6,30 | 6,30 |
| Персікі, 1 кг | 5,20 | 5,20 |
| Яблыкі, 1 кг | 3,80 | 3,80 |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | 1,60 |
| Масла, 1 кг | 16,00 | 17,00 |
| Сала, 1 кг | 12,50 | 13,00 |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | 14,00 |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | 8,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | 3,20 |

## За суткі скралі больш за 11 тысяч рублёў з банкаўскіх картак

МАЛАДЗЕЧНА

1 верасня сем маладзечанцаў паведамілі ў РАУС пра крадзеж грошай з банкаўскіх картак. Жыхары агулам страцілі без малога 11,5 тысячы рублёў.

Заяўнікі альбо пераходзілі па спасылках ад пакупнікоў, і з іх банкаўскіх карт знікалі грошы, альбо пасля званкоў нібыта супрацоўнікаў банкаў з рахунка спісваліся немалыя сумы.

32-гадовы маладзечанец пазбавіўся 60 рублёў. Праз вядомую гандлёвую інтэрнэт-пляцоўку мужчына прадаваў аптычны прыцэл для страйкбола.

У мэсенджар яму патэлефанаваў невядомы ўкраінскі абанент, які сказаў, што гатовы набыць тавар. Ілжэпакупнік даслаў маладзечанцу спасылку нібыта на сайт Еўрапошты, дзе пасля ўвядзення рэквізітаў банкаўскай карты на рахунак будзе пералічаная аплата за куплю і аформленая дастаўка. Мужчына, прытрымліваючыся інструкцыі, паведаміў асабістыя дадзеныя і страціў свае зберажэнні.

Праваахоўнікі ўстанавілі, што сайт з'яўляецца фішынгавым. Як толькі карыстальнік уводзіць рэквізіты, зламыснікам становяцца даступныя яго фінансы. Цяпер па дадзеным факце праводзіцца праверка.

Шэсць жыхароў Маладзечна 1 верасня паверылі лжэсупрацоўнікам «Беларусбанка». Схема ўжо папулярная, але на яе ўсё ж трапляюцца грамадзяне, у прыватнасці, пенсіянеры.

Так, жаночы голас паведаміў 65-гадовай гараджанцы пра спробу ажыццявіць перавод 250 рублёў. Калі аказалася, што ў жанчыны карта іншай фінансавай установы, ашуканцы перайгралі сцэнарый, сказаўшы, што названую суму хочуць незаконна перавесці з яе карткі на рахунак кліента «Беларусбанка».

Напалохаўшы пенсіянерку, што трэба абараніць грошы на дэпазітнай карце, невядомыя сказалі чакаць званка ад спецыяліста таго банка, паслугамі якога яна карыстаецца.

Тут жа на сувязь выйшаў махляр, якому для вырашэння праблем жанчына паведаміла рэквізіты і паролі. Ужо праз некалькі хвілін, выканаўшы шэраг аперацый, злачынец спісаў з карткі ўвесь грашовы запас – сем тысяч рублёў.

Падчас мерапрыемстваў аператыўнікі высветлілі, што званкі пацярпелай паступалі з тэрыторыі Літвы, Латвіі. Цяпер асобы зламыснікаў высвятляюцца.

Іншая даверлівая пенсіянерка таксама аддала аферыстам назапашаную за гады пенсію.

Па словах жанчыны, дыялогу з уяўнай банкіркай папярэднічала СМС: «магчымы крадзеж грошай». Пасля ёй патэлефанавала невядомая дзяўчына, прадставіўшыся банкаўскім работнікам, і пацвердзіла ашуканскія дзеянні з карт-рахункам, для прадухілення якіх неабходная канфідэнцыйная інфармацыя. Пасля тэлефоннай размовы дзяўчына знікла. А з карткі спісалі каля двух тысяч рублёў.

Міліцыя заклікае праяўляць пільнасць у зносінах з незнаёмцамі і ні пад якімі падставамі не паведамляць дадзеныя сваіх банкаўскіх картак, нумары, назвы на адваротным баку, і сакрэтныя коды, якія прыходзяць у СМС.

Сапраўдныя супрацоўнікі банкаў не стануць па тэлефоне высвятляць канфідэнцыйную інфармацыю.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Машына трапіла пад цягнік «Маладзечна-Полацк»

МЯДЗЕЛ

У Мядзельскім раёне 6 верасня сутыкнуліся легкавы аўтамабіль і грузавы цягнік.

Паведамленне пра ДТЗ з удзелам легкавога аўтамабіля і грузавога цягніка «Маладзечна-Полацк» паступіла 6 верасня ў 02:55. ДТЗ адбылося на чыгуначным пераездзе каля аграгарадка Княгінін Мядзельскага раёна.

Як паведамілі ў МНС, пацярпелых у аварыі няма, чыгуначнае палатно не пашкоджанае.

– У 03:50 рух быў адноўлены. Затрымка руху пасажырскага цягніка «Віцебск-Мінск» склала 15 хвілін, грузавога цягніка, які з'яўляецца ўдзельнікам ДТЗ, – 1 гадзіну 24 хвіліны, – праінфармавалі ў ведамстве.

**Паводле БелТА.**



Кіроўца «Фіята» не саступіў дарогу.

Фота забяспечана Дыянай ГАЛУЗАЙ.

# У Палачанах сутыкнуліся бус і «Фіят»

## Аднаго з кіроўцаў забрала «хуткая»

МАЛАДЗЕЧНА

**ДТЗ адбылося 5 верасня раніцай, пасля 9 гадзін.**

Абставіны здарэння расказала інспектар па адміністрацыйнай практыцы АДАІ Маладзечна **Дыяна Галуза:**

– Мікрааўтобус «Форд-Транзіт», якім кіраваў 23-гадовы жыхар Маладзечна, ехаў па вуліцы Савецкай у Палачанах у напрамку Валожына. На скрыжаванні з вуліцай Беразінскай з другараднай дарогі, з боку каняфермы, злева па ходу руху мікрааўтобуса вылецеў «Фіят-Брава». 24-гадовы кіроўца парушыў правілы першачарговага праезду і ўрэзаўся ў «Форд».

Цяпер праводзяць праверку здарэння. Кіроўцу «Фіята» забрала «хуткая».

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Грамадзянін Ірана хацеў незаконна трапіць у Літву

СМАРГОНЬ

31 жніўня ў Пастаўскім раёне ў непасрэднай блізкасці ад мяжы смаргонскія памежнікі затрымалі невядомага мужчыну, паведамляе сайт Дзяржпагранкамітэта.

Ім аказаўся 31-гадовы грамадзянін Ірана, які прызнаўся, што збіраўся незаконна трапіць у Літву. На таксі ён прыехаў у населены пункт Сабалькі, размешчаны ў пяцістах метрах ад мяжы, і далей збіраўся яе парушыць.

У дачыненні да парушальніка пачалі адміністрацыйны працэс паводле артыкула 23.29, 23.30 (незаконнае перасячэнне дзяржаўнай мяжы, парушэнне памежнага рэжыму) КаАП Рэспублікі Беларусь. Яму выпісалі штраф у памеры 20 базавых велічынь – 540 рублёў. Пасля завяршэння разбору мужчыну дэпартуюць з Беларусі на пяць гадоў.

**Паводле Дзяржпагранкамітэта.**

## Шукалі мужчыну, які пайшоў у ягады. Ён выйшаў на сігнал выратавальнікаў

МЯДЗЕЛ

Трэцяга верасня ў 15:22 выратавальнікам паведамілі пра тое, што ў лесе, паблізу вёскі Грыбкі Крывіцкага сельсавета, заблукаў мужчына.

Яго шукалі работнікі РАНС і РАУС. Як стала вядома, у гэты ж дзень мужчына пайшоў у лес у ягады і заблукаў. Сувязь з мужчынам падтрымлівалі па мабільніку.

У 16:12 мужчына выйшаў на сігнал гучнай прылады аварыйна-выратавальнага аўтамабіля. У медыцынскай дапамозе ён не меў патрэбы.

**Паводле МНС.**

## У лясной рэчцы знайшлі труп мужчыны

МАЛАДЗЕЧНА

Маладзечанскія следчыя праводзяць праверку па факце смерці 61-гадовага жыхара Радашкавічаў.

Як расказаў афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта **Ілля Басько**, труп мужчыны знайшоў грыбнік у маленькай лясной рэчцы каля Радашкавічаў 1 верасня.

На месца выязджала следча-аператыўная група. Прыкмет гвалтоўнай смерці не было. Прызначаныя экспертызы. Па словах Іллі Басько, знойдзены мужчына сышоў з дома 16 жніўня. Сваякі заявілі пра яго знікненне.

– Па словах родных, з-за хваробы мужчына дрэнна арыентаваўся ў прасторы. І ўжо былі выпадкі, калі ён сыходзіў з дому, – адзначыў афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Супрацоўнікі МНС выратавалі жанчыну на пажары

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося днём 5 верасня. У службу выратавання прыйшло паведамленне, што з кватэры дома па Чыгуначнай вуліцы ідзе дым.

Калі выратавальнікі прыехалі на месца, то высветлілі, што дым ідзе з акна на другім паверсе. У пакоі на ложку знайшлі 49-гадовую жанчыну. Яе вывелі на свежае паветра. Медыцынскія работнікі агледзелі жанчыну і адпусцілі дадому, яна не пацярпела.

Эвакуіраваць жыхароў не спатрэбілася. У выніку пажару пашкоджаны матрац.

Меркаваная прычына пажару – неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні.

**Паводле МНС.**

## 15-гадовага падлетка забіла токам

ВІЛЕЙКА

Трагедыя здарылася ў прыватным доме ў вёсцы Ізбіно 5 верасня, расказаў карэспандэнту намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Мікалай Мягкоў**.

Па словах Мікалая Мягкова, 15-гадовы хлопец спускаўся ў склеп, дакрануўся да аголенага проваду і ўпаў. Бацькі адвезлі сына ў Вілейскую ЦРБ, дзе дактары канстатавалі смерць падлетка.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Суд паміж дырэктарам гімназіі і назіральнікам на выбарах скончыўся прымірэннем

**Дырэктар маладзечанскай гімназіі №6 Ала Ярашэвіч падала ў суд на Паліну Ганецкую, якая працавала назіральнікам на выбарчым участку ў гэтай школе. У гімназіі размяшчаўся Елгаўскі выбарчы ўчастак №10.**

Ала Ярашэвіч заявіла, што Ганецкая абразіла яе ў гімназіі 10 верасня, на наступны дзень пасля выбараў. Пасяджэнне па справе аб адміністрацыйным правапарушэнні прайшло 4 верасня. Справу разглядала суддзя **Іна Каханоўская**.

Паліне 31 год, яна працуе сацыяльным работнікам па доглядзе за інвалідам другой групы, гадуе 12-гадовую дачку.

Паводле пратакола аб адміністрацыйным правапарушэнні, здарэнне адбылося каля 10:20 у панядзелак, 10 жніўня, у гімназіі №6. Ганецкая «наўмысна абразіла Ярашэвіч непрыстойнымі словамі ў непрыстойнай форме, чым прынізіла гонар і годнасць Ярашэвіч». Ганецкая віну не прызнавала.

Ала Ярашэвіч – дырэктар гімназіі №6. Ганецкую ведае таму, што тая была назіральнікам на выбарчым участку ў гімназіі. Ярашэвіч была на гэтым участку старшынёй выбарчай камісіі.




Дырэктар гімназіі №6 Ала Ярашэвіч (злева) і Паліна Ганецкая падчас перамоў аб прымірэнні.

### Канфлікт: версія Ярашэвіч

На судзе дырэктар гімназіі расказала сваю версію падзей 10 жніўня. Ад 8 раніцы яна прыступіла да працы ў якасці дырэктара гімназіі. Пасля 10 гадзін пачула крыкі і гучную размову на калідоры. Выйшла ў фае, убачыла там Ганецкую. Тая спыталася, дзе пратаколы вынікаў галасавання. Яны ўжо былі знятыя. Пратакол быў вывешаны ад раніцы, яго знялі каля 10 гадзін.

– Патлумачыла, што мы ўжо не выбарчая камісія, а гімназія №6. Яна абразіла мяне. Мне 60 год, і ў такім узросце ўпершыню пераважыла такое! Зайшла ў кабінет, выпіла таблеткі ад ціску. Я адпрацавала 40 год педагогам, у тым ліку 10 год дырэктарам, нікалі і з нічыіх вуснаў не чула абразаў. Мае дзеці старэйшыя за гэту дзяўчыну.

Пры канфлікце прысутнічала вахцёр **Тамара Мікуліч**, сакратар гімназіі **Ірына Садоўская**. Ганецкая папрасіла Ярашэвіч паведаміць, якую фразу яна вымавіла. Дырэктар па распараджэнні суддзі напісала яе на паперы. Абаронца Ганецкай задаў пытанне, у што яго падабаронная была апранутая ў той дзень. Дырэктар адказала, што не памятае. Сказала, што калі маральна саспела, то і напісала заяву ў міліцыю:

– Я не заслужыла таго, каб дзяўчына, удвая маладзейшая за мяне, так зняважыла без ніякіх падстаў. Я ёй нічога кепскага не зрабіла. Стварылі ўсе ўмовы для іх працы.

### Канфлікт: версія Ганецкай

– Канфліктаў да 10 жніўня ў нас не было. Толькі была размова пра тое, што колькасць запісаных людзей у мяне была меншая, у іх большая на 12 чалавек. Ала Іванаўна папрасіла выправіць дадзеныя ў маёй запісной кніжцы, каб не ствараць праблем у далейшым. Я выправіла. Пасля 20 гадзін мы ў якасці незалежных назіральнікаў папрасіліся ў кабінет. Нам сказалі выйсці. Мы прачакалі да 12 гадзін ночы, каб азнаёміцца з пратаколам. Раніцай 10 жніўня я пайшла, каб азнаёміцца з пратаколам. Не ўбачыла яго на дзвярах школы, зайшла ўнутр. Вахцёр сказала, што пратаколы знялі каля 10 раніцы, яна іх бачыла, але не сфатаграфавала.

Вахцёр параіла звярнуцца з пытаннем да дырэктара. Ярашэвіч выйшла з кабінета. Па словах Паліны, яна задала пытанне пра пратакол.

– Нейкага ўцямнага адказу я не атрымала. Спыталася, як мне азнаёміцца з дадзенымі. У адказ мне – мы ўсё знялі, мы не выбарчая камісія, а звычайная школа. Пра пратакол пыталася разы чатыры, і размова перайшла на павышаны тон з абодвух бакоў. Калі сыходзіла, я сказала Але Іванаўне, што будзем падаваць на яе скаргі. У адказ – падавайце, рабіце, што хочаце. У гэты момант яна ішла ў кабінет. У спіну я кінула «Чаму вы ўвогуле можаце навучыць нашых дзяцей?». Развярнулася і моцна груканула дзвярыма. Яна выбегла за мной і нешта крыкнула ўслед. Што, не пачула, таму што набірала па тэлефоне сяброўку.

Ганецкая сказала, што словы, якія ёй ставіць у віну Ярашэвіч, яна не казала.

Суд задаў Ганецкай пытанне: калі яна не абражала, для чаго дырэктару яе агаворваць. Жанчына разважала, што дырэктара маглі запалохаць магчымыя скаргі, пра якія назіральнік казала. Штуршком магло быць вывешванне дыпломаў і грамат з рознымі подпісамі на варотах школы.

Паліна дадала, у што яна была апранутая ў той дзень – чорная майка, белыя штаны, абгорнутая ў бел-чырвона-белы сцяг з Пагоняй.

### Сведкі

У якасці сведкаў па справе выступілі падначаленыя пацярпелай – сакратар гімназіі і вахцёр.

Сакратар Садоўская сказала, што паклікала дырэктара і пайшла да сябе ў кабінет. У час канфлікту была ў кабінеце, але ўсё чула. Ганецкая размаўляла на павышаных тонах, у канцы сказала непрыстойныя словы. І што пасля яна гэта пытанне з дырэктарам не абмяркоўвала.

Вахцёр Мікуліч чула гутарку паміж жанчынамі. З яе слоў, Ганецкая пыталася, якімі былі вынікі пратакола. На што Ала Іванаўна адказала, што не памятае. Пасля чаго Ганецкая выказала абразу і пайшла.

Суд высветліў, што ў холе гімназіі вядзецца відэаназіранне і запатрабаваў запісы, якія паказваюць разглядаемы канфлікт. Дырэктар гімназіі аддала суду відэазапісы з дзвюх камер. Яны запісваюць толькі відэа, без гуку. Было заўважна, што Паліна была абгорнутая ў сцяг.

Суд задаў бакам пытанне, ці хацелі б яны прымірыцца. Ганецкая сказала, што гатова. Пацярпелая сказала, што варыянт магчымы. Бакі ўзялі час на перамовы.

### Прымірэнне

Пасля абмеркавання Ярашэвіч сказала суду:

– Я гатова дараваць чалавеку, калі больш гэтых інсінуацый не будзе. Я ішла сюды агрэсіўна настроеная, але прыгадала выраз «Крыўдзіцца – па-чалавечы, дараваць – па-боску». Толькі з-за таго, што яна гадуе маленькае дзіця, гатова ёй дараваць, калі яна папросіць прабачэнне.

Ганецкая пагадзілася.

Суд пастанавіў вызваліць Паліну Ганецкую ад адміністрацыйнай адказнасці і спыніць у яе адносінах вытворчасць па справе аб адміністрацыйным правапарушэнні ў сувязі з прымірэннем пацярпелай з асобай, у адносінах да якой вёўся адміністрацыйны працэс.

Паліна Ганецкая падзялілася пасля суда:

– Я за мірнае ўрэгуляванне. Было відавочна, што пагражае максімальны штраф. Гэта справа не вартая тых грошай. Аддаць іх, каб папесціць самалюбства, не вельмі хацелася. Яшчэ зачапіла несправядлівасць. Яны ж бачылі, што мы чакаем пратакол, дык чаму было не сказаць, што будзе з васьмі раніцы вісець? Атрымліваецца, са мной як выбаршчыкам не лічацца. А мой жа голас важны!

Ала Ярашэвіч таксама пракаментавала вынік суда:

– Я стала ўдавой у 32 гады, выгадавала дваіх дзяцей. Калі даведалася, што ў гэтай дзяўчыны ёсць дзіця, якое гадуе адна, гэта мяне кранула. І толькі гэта дало падставу, каб ёй дараваць. Думаю, будзе ўрок на будучыню – за кожнае слова трэба трымаць адказ. Хаця калі ішла сюды, вельмі патрабавальна ставілася да сітуацыі. Я ведаю, што такое спачуванне. І што ў некаторых сітуацыях людзям трэба прабачаць.



Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews @rh.by
(8-033) 66-719-77

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

Рэгіянальная газета. Rh.by

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Дыскі жалезныя R14 (4x108), 4 шт., сталые на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО**: крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Аўто ў любым стане. Можна аварыйнае. Т. (8-033) 6612163.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Еўрарамонт. Цана дамоўная. Т. (8025) 5296374.*

• 2-пакаёвая кватэра ў цэнтры Маладзечна па вул. Ф. Скарыны, д.55 з рамонтам, на 3 паверсе. Т. (8-044) 7626113.

• Дача 0,07 га ў в. Алянец Смаргонскага раёна, лес, р. Вілія. Т. (8-029) 6444731.

• Дом 9х12 на вываз. Крывічы Мядзельскі раён, вул. 17 Верасня, дом 53. Яўген.

• Дом з усімі выгодамі ў Вілейцы. Т. (8-029) 7667446.

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС.*

• Дом у аг Беразінскае, плошча 114 кв.м, участак 12 сотак, з усімі выгодамі, надворнымі пабудовамі, садам. Т. (8-029) 8597976.*

• Зруб. Т. (8-044) 4781305.*

## ПАСЛУГІ

### КУПЛЮ

• Кватэру ў Астраўцы. Т. (8-033) 6522517

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вяселле, юбілей, карпаратыў. Музычнае афармленне. Вядучы. ІП Язневіч Л.М. УНП 692245902 Т. (8-044) 5945440.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Івека да 3 т. Маладзечна, РБ. ІП Вайшнаровіч А. З. УНП 692248968 Т. (8-029) 7775442.*

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

**РЕМОНТ ТЕЛЕВИЗОРОВ И СПУТНИКОВЫХ АНТЕНН**
Тел. (8-029) **561-39-72**
ИП Токмаков Г.В. УНП 692022633

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ**. ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Абітурыентам і школьнікам. Хімія. Біялогія. Рэпетытар. Т. (8-029) 3275496.*

• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 690210733 Т. (8-029) 3603663, (8-029) 8331245.*

• Бурэнне свідравін (скважин). Калонкі. Помпы. Падвод вады да дома. Наяўны/безнаяўны разлік. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450. Т. А1 (8-029) 1287878, МТС (8-029) 7860317.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ДЭМАНТАЖ**. ІП Буслаўскі А.І. УНП 691292601 Т. (8-029) 5417847, (8-029) 3057579.*

• Каркаснае будаўніцтва. Вокны ПВХ. Дах, Сайдынг. Рамонт. Замена. Абслугоўванне. ІП Котаў У.І. УНП 692241473 Т. (8-029) 2541558, (8-029) 7659498.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Наносім фота на кубак, майку. Смаргонь, вул. Танкістаў, 8 «НгС». ІП Улан Р.В. УНП 692088442 Т.(8-029) 6631595.*

• Работа са шклом (стекольные работы). Дастаўка, нарэзка, устаноўка шкла і люстэрак. ІП Ціхановіч П.П. УНП 691506875 Т.(8-029) 9512185, (8-033) 3293993.*

ООО «Завод напитков «Роял Фрут Бел» осуществляет
**ПРИЁМ ЯБЛОК ОТ НАСЕЛЕНИЯ, ФЕРМЕРСКИХ ХОЗЯЙСТВ**
**при наличии справки о приусадебном хозяйстве или качественного удостоверения**
Цена за 1 кг – **20 коп.** (в том числе НДС 10%) **с доставкой; 18 коп.** (в том числе НДС 10%) **без доставки.**
Тел. (8-0176) **77-04-48, 77-23-13,** (8-029) **620-36-94,** (8-029) **506-05-12**
УНП 192421134

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8029) 3395974.*

• **САНТЭХНІЧНЫЯ РАБОТЫ** любой складанасці. ІП Калганаў А.Г. УНП 691290808 Т. (8-029) 8726800.*

• **СПІЛОЎВАННЕ ДРЭЎ.** АБРЭЗКА. ДРАБНЕННЕ ГАЛІНАК І ПНЕЎ. ІП Таўгень. Е.П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830. Вайбер.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Узворванне. Культывацыя. Выдаленне бульбоўніку. Уборка бульбы КТН-2В. ІП Каркоцкі С.В. УНП 692246779 Т. (8-029) 7682028.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

**АНТЕННЫ СПУТНИКОВЫЕ**
(8029) **762-78-98**
(8029) **332-67-79**
ИП Емельянов А.В. УНП 600361413

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Карова, авечкі. Т. (8-029) 1707186.*

• Свінні белыя і в'етнамскія на мяса. Парасяты в'етнамскія. Т. (8-025) 7894666.*

• Кабан-вытворца, 1,5 год, патомства ад 16-24 шт. парасят (Ландрас). Т. МТС (8-029) 8581801.

**Іншае**

• Дровы, дошкі. Т. (8-029) 6106061.*

• Кенгуру для пераноскі дзяцей (7 руб.), вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

• Пшаніца, жыта, бульба буйная, дробная. Т. (8-033) 6020455, (8-044) 4930237.*

• Сена ў цюках. Дастаўка. Т. (8025) 7894666.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-033) 3401475.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Арганізацыі на пастаянную работу патрабуюцца швачкі (брыгада). ТАА «МісСью» УНП 691888958 Т. (8-029) 3482283.*

• Вадзіцель з машынай і маніпулятарам на пастаянную работу (перавозка блокаў ГС). Т (8-044) 7516244 Вэлком.

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Шукаю працу па рамонце драўляных дамоў (замена старых бярвенняў), рамонт падмуркаў, дахаў. Т. (8-029) 8745410.*

**Окна • Двери • Рамы**
**ПВХ ОТКОСЫ**
**ДВЕРИ металлические межкомнатные**
**НАТЯЖНЫЕ ПОТОЛКИ**
Скидки • Рассрочка
Гарантия
**Большой ассортимент продукции**
Тел. (8-029) **765-78-31**
(8-044) **773-86-22**
ИП Шмелёв И.Н. УНП 692027451

**ВОКНЫ танна**
ад вытворцы
Тэл. (8-029) **394-64-99**
(8-029) **763-00-32**
ПУП «Бетона» УНП 693038196

**ОБШИВКА ДОМА САЙДИНГОМ**
**УТЕПЛЕНИЕ**
**КРОВЛЯ**
*Рассрочка • Кредит*
Тел. (8-033) **366-76-60**
(8-029) **978-27-25**
ИП Завадский В.А. УНП 692246263

**УТЕПЛЕНИЕ ДОМОВ**
заполнение воздушных зазоров наружных стен здания карбамидным
**ПЕНОПЛАСТОМ МАРКИ ПЕНОТЕК-НГ**
**СНИЖЕНИЕ ПОТЕРЬ ТЕПЛА ДО 40%**
penotek-ng.by
(8-029) **127-04-25**
(8-029) **563-28-40**
ИП Грищенков И.Н. УНП 191574779

**Рэклама ў «РГ»**
8 (0176) **53-78-04**
**reklama@rh.by**

**ОТДЕЛКА И УТЕПЛЕНИЕ ДОМОВ**
**сайдингом, имитацией бруса, блокхаусом**
**ВОЗВЕДЕНИЕ**
**фундаментов, стен, крыш**
**КАНАЛИЗАЦИОННЫЕ РАБОТЫ**
Продажа и монтаж **ОКОН ПВХ,**
входных и межкомнатных **ДВЕРЕЙ**
**Наличный и безналичный расчёт • Кредит • Рассрочка**
Тел. (8-044) **500-70-22**, (8-0176) **522-817**
ООО «БудМал» УНП 692248807

**КРОВЛЯ**
**ИЗДЕЛИЯ ИЗ ПВХ**
**Высокое качество**
**Индивидуальный подход**
**Доступные цены**
**Бесплатный замер**
ООО Уютный Кут
**САЙДИНГ**
**ЗАБОРЫ**
**Скидки • Акции • Рассрочка • Кредит**
Тел. (8-044) **550-56-56**
УНП 692248970

Предлагаем изготовление следующей продукции:
**ВОРОТА ОТКАТНЫЕ, РАСПАШНЫЕ**
**КАЛИТКИ**
**НАВЕСЫ**
**И ДРУГИЕ МЕТАЛЛИЧЕСКИЕ КОНСТРУКЦИИ**
по индивидуальным заказам
Тел. (8-029) **622-03-48**, (8-029) **774-71-60**
ООО «Строительные направления» УНП 691294127

Монтаж **СЕПТИКОВ** и **АВТОНОМНЫХ КАНАЛИЗАЦИЙ, ВОДОПРОВОДА, ОТОПЛЕНИЯ,**
выполнение **ЗЕМЛЯНЫХ РАБОТ,**
аренда **МИНИ-ЭКСКАВАТОРА** с машинистом,
грузоперевозки **АВТОМОБИЛЕМ С МАНИПУЛЯТОРОМ** и **ПРИЦЕПОМ** до 21 тонны
Тел. (8-029) **776-54-97**, (8-029) **861-69-05**
ЧСУП «ТГВСтрой» УНП 692024702

# «Дзе справы пра збіццё і катаванні?»

## Выбаршчыкі Маладзечанскага і Валожынскага раёнаў сустрэліся з дэпутатам

**8 верасня выбаршчыкі Маладзечанскай выбарчай сельскай акругі №73 сустрэліся з дэпутатам Алегам Семенчуком. Выбаршчыкі паразмаўлялі з ім пра прэзідэнцкія выбары і гвалтоўныя разгоны мірных пратэстаў.**



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Жыхар Радашкавічаў Яўген Сімалацар перад сустрэчай з дэпутатам Семенчуком.

### Сустрэча без прэсы, толькі з шасцю выбаршчыкамі

У Маладзечанскую выбарчую сельскую акругу №73 уваходзіць Валожынскі раён, Радашкавічы і ўсе сельскія Саветы, а таксама маладзечанскі раён Залінейны. Дэпутатам гэтай акругі з'яўляецца **Алег Семянчук**.

Аб сустрэчы з дэпутатам Нацыянальнага сходу Семенчуком дамаўляўся жыхар Краснага **Уладзімір Крот**. Па яго словах, сустрэцца масава з усімі ахвотнымі Семянчук не пажадаў, дамовіліся на сустрэчу толькі з шасцю выбаршчыкамі, якія прадстаўлялі розныя населеныя пункты акругі. Таксама на мерапрыемства не запрасілі прадстаўнікоў прэсы.

Першапачаткова ініцыятарамі сустрэчы сталі жыхары Краснага. Яны сустрэліся са старшынёй Красненскага сельскага Савета дэпутатаў **Валянцінай Кісель**, і ўжо пасля яе захацелі сустрэцца з дэпутатам Нацыянальнага сходу, якім з'яўляецца Семянчук.

На пачатку сустрэчы дэпутат і выбаршчыкі абгаварылі рэгламент, колькі часу будуць выказвацца выступоўцы. На сустрэчу дэпутат выдзеліў толькі адну гадзіну. На ёй прысутнічалі прадстаўнікі Краснага Уладзімір Крот і **Ганна Верацейка**, **Яўген Сімалацар** з Радашкавічаў, **Раман Гардзяюк** з Ракава, **Ілля Сеннікаў** з Чысці і прадстаўнік маладзечанскага Залінейнага раёна **Андрэй Мацевіч**.

### З чым ішлі выбаршчыкі на сустрэчу

Выбаршчыкі падалі зварот да дэпутата, у якім прапісалі тры галоўныя пункты.

Па-першае, яны даручылі дэпутату Семенчуку накіраваць дэпутацкія звароты ў Генеральную пракуратуру і Следчы камітэт для высвятлення прычын неўзбуджэння крымінальных спраў па фактах гібелі ўдзельнікаў масавых мерапрыемстваў і фактах катаванняў і жорсткага, бесчалавечнага абыходжання з затрыманымі, як пры іх затрыманні, так і ў перыяд знявалення ва ўстановах праваахоўнай сістэмы.

Па-другое, ініцыяваць стварэнне ў Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу дэпутацкай камісіі для аб'ектыўнага расследавання і прававой ацэнкі фактаў гвалту падчас акцый пратэсту; разгледзець факты супрацьпраўных дзеянняў як пратэстоўцаў, так і супрацоўнікаў МУС і іншых сілавых структур.

Па-трэцяе, ініцыяваць унясенне змяненняў у заканадаўства аб масавых мерапрыемствах.

### Пра што атрымалася паразмаўляць з Семенчуком

Жыхар Радашкавічаў Яўген Сімалацар стаў першым выступоўцам.

– Думаю, што ўсе згодныя, што ў краіне адбываецца сацыяльна-палітычны крызіс. Ужо бачныя эканамічныя наступствы гэтага крызісу, яго трэба вырашаць. Чым больш крызіс зацягваецца, тым больш буйнымі будуць яго наступствы.

Сімалацар задаваў Семенчуку пытанні пра магчымыя выпадкі фальсіфікацыі прэзідэнцкіх выбараў у Мінску, а таксама пра ўжыванне гвалту з боку праваахоўных органаў у паслявыбарны перыяд. Адной з просьбаў Сімалацара была просьба накіраваць дэпутацкі зварот у сілавыя ведамствы – Генеральную пракуратуру і Следчы камітэт – каб высветліць, на якім этапе знаходзяцца расследаванні ўжывання гвалту супраць пратэстоўцаў на тэрыторыі выбарчай акругі.

**Семянчук пачаў адказ з выбараў. Ён адзначыў, што галасаваў датэрмінова і за дзеючага прэзідэнта. Семянчук упэўнены ў перамозе Лукашэнкі.**

– Вы кажаце пра парушэнні, але я як дэпутат не магу праверыць гэтыя выпадкі. Ніколі не ўдзельнічаў у выбарчых камісіях, але не магу паверыць, што там фальсіфікавалі. Я веру людзям. Ёсць органы, якія гэтым павінны займацца і расследаваць.

Семянчук дадаў, што не прымае гвалту, не пераносіць падман і хлусню.

– Я цікавіўся, што адбываецца па Маладзечанскім раёне: сёння ідуць следчыя мерапрыемствы. Тыя, хто перавысіў паўнамоцтвы, аказваў гвалт, правакаваў, павінны быць пакараныя, з усіх бакоў.

Раман Гардзяюк з Ракава ў Валожынскім раёне распавядаў пра працу незалежных назіральнікаў, якія былі вымушаныя сядзець на прыступках каля выбарчых участкаў. Падзяліўся шматлікімі назіраннямі па ўчастках на выбарах на Валожыншчыне. Таксама дадаў, што ўсіх зніклых падчас пратэстаў у Валожынскім раёне знайшлі.

– Усё выглядае так, што ўлада змяняе чарговасць разглядання спраў. Разглядаюцца толькі справы пра несанкцыянаваныя масавыя мерапрыемствы, а вось дзе справы пра збіццё і катаванні людзей? – задаўся пытаннем Гардзяюк.

Семянчук адказаў, што не ўпэўнены, што на тэрыторыі рэгіёна ёсць дакладна зафіксаваныя факты ўжывання гвалту. Ганна Верацейка патлумачыла, што ў яе шмат знаёмых пацярпелі пасля пратэстаў, але яны не хочуць прыходзіць на сустрэчы з дэпутатамі.

– Яны баяцца, сварацца на мяне. Кажуць, што я проста не была там, дзе былі яны, – распавяла Ганна.

**– А можа яны не прыходзяць па іншай прычыне? Можа таму, што яны самі правакавалі, – адказаў Семянчук.**

Дэпутату Семенчуку паказалі відэа збіцця сілавікамі людзей у Лебедзеве 12 жніўня. Тады жыхары вёскі ішлі падаваць зварот да старшыні сельвыканкама **Тамары Дудзіч**, аднак на шляху да яе іх збілі супрацоўнікі АМАПа. Пасля прадстаўнікі выбаршчыкаў выбарчай акругі №73 паказалі відэа з Маладзечанскага РАУС, на якім затрыманых людзей збіваюць супрацоўнікі ў форме. Рэальнасць відэа пацвердзілі ва УУС Мінаблвыканкама. Семянчук адказаў, што не ведае ўсіх фактаў, трэба дэталёва ва ўсім разбірацца.

– Пры затрыманні могуць выкарыстоўваць сілавыя метады. Бо невядома, што ў злачынцаў у руках. Аднак гэта не значыць, што пасля затрымання павінна быць збіццё. Я разумею вашу боль, – адказаў дэпутат.

У Семенчука запыталіся, ці пацвярджае, што падчас разгону ўжывалі гвалт. Адказаў, што пацвярджаюць гэта прадстаўнікі выбаршчыкаў відэазапісамі, а не ён.

– Я там не прысутнічаў, не бачыў. Бачу, што вы мне паказваеце, як б'юць дубінкай. Тут павінны дэталёва разабрацца органы. Вы кажаце пра парушэнні правоў з боку сілавых органаў, але Следчы камітэт і Генпракуратура не зацікаўленыя бакі, яны павінны высветліць.

**Прадстаўнікі выбаршчыкаў выбарчай акругі прапанавалі сустрэцца дэпутату з астатнімі выбаршчыкамі ў пашыраным складзе. Семянчук адказаў, што не бачыць у гэтым неабходнасці.**

Прадстаўнікі выбаршчыкаў сказалі, што і далей збіраюцца працаваць з дэпутатамі, накіроўваць запыты і па магчымасці сустракацца з імі.

«РГ» запыталася ва ўдзельнікаў гутаркі з дэпутатам, якія ўражанні пакінула сустрэча.

**Раман Гардзяюк:**

– Адкрытага дыялогу з дэпутатам не атрымалася. Ён трымаўся меркавання, што гвалт быў з боку пратэстоўцаў. Казаў, што былі людзі з судзімасцямі сярод дэманстрантаў. У вачах чыноўніка ініцыятывы не было.

**Яўген Сімалацар**:

– Ён выказаў пункт гледжання на гэту сітуацыю. Быў гатовы абмяркоўваць гвалт і фальсіфікацыі, але не іх прычыну.

**Па маім уражанні, ён быў разгублены і не гатовы разумець тыя прычыны.**

Мы можам займацца імітацыяй дзейнасці: пісаць скаргі, а яны будуць даваць адпіскі, але гэта не рашэнне.

**Андрэй Мацевіч**:

– Хацелі зразумець, ці бачыць улада той крызіс у краіне. Зразумець, ці бачыць гэта дэпутат. Дэпутат адказваў, што бачыць гэта і трэба нешта вырашаць, але ніякіх шляхоў для вырашэння не прапанаваў.

З такім жа пытаннем звярнуліся да дэпутата Семенчука. Яго памочніца **Луцыя Арловіч** заявіла, што дэпутат ніякіх размоў па тэлефоне не праводзіць.

**Аддзел інфармацыі.**

## Беларусь 1

**6.10** Існасць [СТ].
**6.40, 19.10, 21.40** Х/ф **«ЦВЕТ СПЕЛОЙ ВИШНИ».**
**8.30** Один день.
**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.
**9.10** Смысл жизни.
**9.40** Здоровье [СТ].
**10.30** Дача.
**11.05, 12.10** Х/ф **«НИКОМУ НЕ ГОВОРИ».**
**15.10** Краіна.
**15.40** Х/ф **«ТРЕТЬЯ ЖИЗНЬ ДАРЬИ КИРИЛЛОВНЫ».**
**21.00** Панорама.
**23.30** Х/ф **«ЗАКОН СОХРАНЕНИЯ ЛЮБВИ».**
**1.20** День спорта.

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**
**8.40** Т/с **«СТИЧ!».**
**9.25, 21.05** Телебарометр.
**9.35** Х/ф **«КРОЛИК ПИТЕР».**
**11.05** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.
**11.55** Камень, ножницы, бумага.
**12.25** «Погоня за вкусом». Кулинарное трэвел-шоу.
**13.15** «Когда мы дома». Скетчком.
**13.50** Х/ф **«СНОВА ТЫ».**
**15.35** «Меняю жену». Реалити-шоу.
**17.25** «Свадьба вслепую». Реалити-шоу.
**19.00** Х/ф **«ДЕЖАВЮ».**
**21.10** Спортлото 6 из 49, КЕНО.
**21.15** Х/ф **«ГОЛОДНЫЕ ИГРЫ: И ВСПЫХНЕТ ПЛАМЯ».**
**23.35** «Орел и Решка. Морской сезон». Трэвел-шоу.

## Беларусь 3

**7.35** «Сіла веры».
**8.00, 15.00, 20.20** Навіны культуры.
**8.20** «Вялікая сям'я». Мастацкі фільм [СТ].
**10.00** «Беларуская кухня». Квас з селядцом.
**10.30** «Я хачу гэта ўбачыць!».
**10.55** «Пётр Лешчанка. Усё, што было…» Мастацкі фільм.
**14.30** «Навукаманія».
**15.15** «Гэты дзень».
**15.20** «Сем старых і адна дзяўчына». Мастацкі фільм [СТ].
**16.45** «Камертон». Дырыжор Аляксандр Сасноўскі.
**17.10** «Сваімі словамі». Тэлевікітарына.
**17.50** Канцэрт «Славянскі базар у Віцебску-2018».
**18.45** «Гаспадар тайгі». Мастацкі фільм.
**20.05** «Суразмоўцы». Аўтарскі праект пісьменніка Навума Гальпяровіча. Госць — загадчык кафедры мовазнаўства і лінгвістыкі БДПУ Дзмітрый Дзятко.
**20.40** «Калыханка».
**21.05** «Тры плюс два». Мастацкі фільм [СТ].
**22.45** «Арт-гісторыі». Адарвацца ад зямлі: гарады будучыні Лазара Хідэкеля.
**23.10** «Дажывем да панядзелка». Мастацкі фільм [СТ].

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 18.00, 20.00** Наши новости.
**7.10** ОНТ представляет: «Марков. Ничего личного».
**8.00** Премьера. «101 вопрос взрослому».
**9.10** Х/ф **«ПОД ПРИЦЕЛОМ ЛЮБВИ».**
**11.00** «Видели видео?».
**13.00** Премьера. «На дачу!» с Наташей Барбье.
**14.05** Х/ф **«ПЕРЕКРЁСТОК».**
**16.20** «Кто хочет стать миллионером?» с Дмитрием Дибровым.
**18.15, 21.10** «Сегодня вечером».
**20.45** ОНТ представляет: «Метеогид».
**22.25** Х/ф **«ЛЮБИТЬ НЕЛЬЗЯ ЗАБЫТЬ».**
**0.00** Х/ф **«ТАЁЖНЫЙ РОМАН».**

## СТВ

**6.15, 1.35** «Эликсир молодости».
**8.00** «Анфас».
**8.20** «Самая полезная программа».
**9.10** Документальный проект.
**10.00** «Минск и минчане».
**10.30** «Центральный регион».
**11.00, 20.05** Документальный спецпроект.
**12.40, 13.40, 16.40** Т/с **«ВСКРЫТИЕ ПОКАЖЕТ».**
**13.30, 16.30, 19.30** Новости «24 часа».
**19.55** «СТВ-спорт».
**21.40** «Территория заблуждений».
**22.30** Т/с **«ПРОВОКАТОР».**

## Мир

**5.00** Х/ф **«СЛОНЫ МОИ ДРУЗЬЯ».**
**5.10** Х/ф **«СЕМЕРО СМЕЛЫХ».**
**6.40, 7.50** Мультфильмы.
**7.20** «Секретные материалы».
**8.00** Премьера. «Знаем русский».
**9.00** Ток-шоу «Слабое звено».
**10.00, 16.00, 19.00** Новости.
**10.10** Х/ф **«ЖЕНИТЬБА БАЛЬЗАМИНОВА».**
**12.05, 16.15, 19.15** Т/с **«ВЫСШИЙ ПИЛОТАЖ».**
**3.30** Х/ф **«СЕРДЦА ЧЕТЫРЕХ».**

## НТВ-Беларусь

**6.15** «Астропрогноз».
**6.20** Сегодня. Главное.
**6.25** Terra incognita. Беларусь неизвестная.
**6.55** «50 рецептов первого».
**7.30** «Дача».
**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».
**8.20** Их нравы.
**8.35** «ЧП.by: Время итогов».
**9.05** «Города Беларуси».
**9.35** «Врачебные тайны плюс».
**10.20** Главная дорога.
**10.50** «Живая еда с Сергеем Малозёмовым».
**11.40** Квартирный вопрос.
**12.35** «НашПотребНадзор».
**13.15** «Поедем, поедим!».
**14.05** Истории спасения.
**14.35** Х/ф **«ОБРАТНЫЙ ОТСЧЕТ».**
**16.20** За гранью.
**16.40** «Секрет на миллион» Надежда Бабкина, 1 ч.
**18.20** «Следствие вели…».
**19.00** «Центральное телевидение» с Вадимом Такменевым.
**20.10** Х/ф **«ПЛЯЖ».**
**23.25** «Таинственная Россия».

## Беларусь РТР

**7.00** «Тайны Беларуси».
**8.00** Х/ф **«ЗВЕЗДА ПЛЕНИТЕЛЬНОГО СЧАСТЬЯ».**
**11.00** ВЕСТИ.
**11.30** «Сто к одному».
**12.20** ПРЕМЬЕРА. «Юмор! Юмор! Юмор!!!».
**13.25** ПРЕМЬЕРА. «Доктор Мясников».
**14.30** Х/ф **«ЖИЗНЬ БЕЗ ВЕРЫ».**
**16.20** Х/ф **«МОИ ДОРОГИЕ».**
**19.45** «Плюс-минус».
**20.00** ВЕСТИ В СУББОТУ.
**20.50** «Привет, Андрей!». Вечернее шоу Андрея Малахова.
**22.35** Х/ф **«ТАНЕЦ ДЛЯ ДВОИХ».**

## кіно і спорт

### TV1000

**7.30** Шутки в сторону 2: Миссия в Майами. **9.35** Любимцы Америки. **11.20** Испанский-английский. **15.45** Шрэк. **17.20** Шрэк 2. **19.00, 5.00** Код Да Винчи. **21.35** Ангелы и Демоны. **0.05** Пассажир. **2.20** Капитан Филлипс.

### TV1000 ACTION

**6.00, 16.45** Не пойман, не вор. **8.15** Уличный боец. **9.55** Легенда. **12.10** Ультрафиолет. **13.40** Время ведьм. **15.15** Пастырь. **19.00** Точка обстрела. **20.30** Немыслимое. **22.05** Нокаут. **23.35** Синистер. **1.30** Синистер 2. **3.15** Газетчик. **5.10** Дэнни Цепной пёс.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.05** Ярды. **8.45** Край. **10.55** Элефант. **12.15** Суперменеджер, или Мотыга Судьбы. **13.50** Хоттабыч. **15.30** Бармен. **17.10** Гороскоп на удачу. **19.00** Любовь-морковь. **20.55** Любовь-морковь 2. **22.45** Любовь-морковь 3. **0.25** Как Витька Чеснок вёз Лёху Штыря в дом инвалидов. **2.00** Глухарь в кино. **3.40** Чёрная молния. **5.30** Униженные и оскорблённые.

### ТВ3

**6.00, 5.45** Мультфильмы. **9.45** «Полный порядок». **10.15** Х/ф **«БЕТХОВЕН». 12.00** «Лучший пёс». **13.00** Х/ф **«АНАКОНДА». 15.00** Х/ф **«ЗВЕРИНАЯ ЯРОСТЬ». 17.00** Х/ф **«ДРОЖЬ ЗЕМЛИ». 19.00** Х/ф **«ПАРК ЮРСКОГО ПЕРИОДА». 21.45** Х/ф **«ПАРК ЮРСКОГО ПЕРИОДА: ЗАТЕРЯННЫЙ МИР». 0.30** Х/ф **«ЯДОВИТАЯ АКУЛА». 2.00, 2.45, 3.30, 4.15, 5.00** «Тайные знаки».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ШИРОКА РЕКА». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ОБЩАЯ ТЕРАПИЯ». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«ЖИЗНЬ, КОТОРОЙ НЕ БЫЛО». 13.00, 21.00** Т/с **«УСЛОВИЯ КОНТРАКТА». 14.00, 22.00** Т/с **«ОДНА ТЕНЬ НА ДВОИХ». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«МЕТОД ФРЕЙДА 2». 5.00** Т/с **«УСЛОВИЯ КОНТРАКТА 2». 6.00** Т/с **«ПОД БОЛЬШОЙ МЕДВЕДИЦЕЙ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.10** Х/ф **«К ЧЕРТУ НА РОГА». 2.50** Х/ф **«СКАНДИНАВСКИЙ ФОРСАЖ». 4.30** Х/ф **«СКАНДИНАВСКИЙ ФОРСАЖ. ГОНКИ НА ЛЬДУ». 6.10** Х/ф **«ВСЕ ПАРЫ ДЕЛАЮТ ЭТО». 8.05** Х/ф **«ПРОДВИНУТЫЙ». 9.45** Х/ф **«ТЕЛОХРАНИТЕЛЬ КИЛЛЕРА». 12.00** Х/ф **«СНОВА В ШКОЛУ». 13.50** Х/ф **«ЭЙР АМЕРИКА». 16.00** Х/ф **«ЗАКОЛДОВАННАЯ ЭЛЛА». 17.50** Х/ф **«УБЕЙ МЕНЯ ТРИЖДЫ». 19.30** Х/ф **«ПЛОХОЙ САНТА». 21.10** Х/ф **«ПЛОХОЙ САНТА 2». 22.50** Х/ф **«МУЖЧИНЫ ПРОТИВ ЖЕНЩИН».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.10, 1.10** Т/с **«РАЗВЕДЧИЦЫ». 2.10, 3.40** Т/с **«БОГОМОЛ». 4.40, 5.45, 6.45, 7.45, 8.45, 9.45, 10.45, 11.50, 12.50, 13.55** Т/с **«ОХОТА НА ГАУЛЯЙТЕРА». 14.55, 16.10, 17.20, 18.35, 19.50, 21.00** Т/с **«ВОЙНА И МИР». 22.40, 23.40** Т/с **«ОПЕРАЦИЯ «САТАНА».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.35** «КВН. ПА-НАШАМУ». **9.05** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **9.30** Мультфильмы «СКУБИ ДУ». **10.00** «ПРОСТО КУХНЯ». **11.00** Make-over шоу «РОГОВ В ДЕЛЕ». **12.00** Х/ф **«НАЦИОНАЛЬНАЯ БЕЗОПАСНОСТЬ». 13.35, 21.00** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **15.15** Х/ф **«КАПИТАН ФИЛЛИПС». 17.40** Х/ф **«КИН». 19.35** Х/ф **«ВЭЛИАНТ: ПЕРНАТЫЙ СПЕЦНАЗ». 22.25** Х/ф **«ВОССТАНИЕ». 0.00** Х/ф **«ОБИТЕЛЬ ЗЛА 5: ВОЗМЕЗДИЕ». 1.35** «КИНО В ДЕТАЛЯХ». **2.25** Шоу «САРАНХЭ». **3.15** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.50** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Азбука спорта. **7.10** Мир английской премьер-лиги. **7.40** Футбол. Беларусбанк — чемпионат Беларуси. 24-й тур. Неман — Минск. **9.40** Фактор силы. **10.10** Легкая атлетика. Бриллиантовая лига. Рим. **12.15** Тренировочный день. **12.45, 16.40** Вот это спорт! **13.00** Теннис. WTA. Рим. 1/4 финала. **14.30** Футбол. Чемпионат Англии. Эвертон — Вест Бромвич. **16.55** Спорт-центр. **19.20** Футбол. Чемпионат Англии. Манчестер Юнайтед — Кристал Пэлас. В перерыве Спорт-центр. **21.25** Теннис. WTA. Рим. Четвертьфиналы.

### EUROSPORT

**0.00, 11.00, 11.30, 13.00, 15.15** Автогонки. «24 часа Ле-Мана». **0.30, 6.30** Велоспорт. «Тур де Франс». 19-й этап. **2.30** Велоспорт. Чемпионат мира-2019. Йоркшир. Женщины. **3.15** Велоспорт. Чемпионат мира-2019. Йоркшир. Мужчины. **4.00** Велоспорт. «Тур де Франс». 17-й этап. **5.15** Велоспорт. «Тур де Франс». 18-й этап. **8.30** Велоспорт. «Тур Люксембурга». 4-й этап. **9.35, 13.30** Автогонки. «24 часа Ле-Мана»-2019. Обзор. **10.35, 12.00** Автогонки. «24 часа Ле-Мана». Квалификация. **14.30** Автогонки. «24 часа Ле-Мана». Интро.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 10.05, 10.55** Советы для каждого. **6.30, 9.45, 12.50, 15.10, 17.50, 22.55, 0.45, 3.05** Итоговые новости. **6.40, 14.35, 18.10, 1.20** Испытание на прочность. **7.10, 8.55, 18.40** Металломщики. **7.55, 15.45, 2.10** Тест на «Драйве». **8.25, 2.35** Сити-тестер. **10.35, 11.25** Тест с дядей Ваней. **11.50** Сравнительный тест. **12.20, 19.30, 23.15, 3.20** Кругосветка по бездорожью. **13.10, 20.00, 23.45, 3.50** Авто: вторые руки. **13.25, 23.55, 4.05** Трасса А2. **14.15, 1.05** Проверка на дороге. **15.30, 1.55** Вторичка. **16.15, 21.05, 4.50** Возвращение легенды. **16.45** Вечер с Пикуленко. **17.30, 22.35** Хорошо забытое. **20.15** Супергрузовики. **21.35** Автолайф. **21.55, 5.20** Байки про байки.

### EXPLORE

**6.00** Битва за карпов. **6.25, 7.15, 8.05, 8.55, 9.40** Чудовищный карп. **10.55, 11.40** Ржавые тачки на прокачку. **12.30, 13.15** Австралийские охотники на лобстеров. **14.05, 18.55, 0.55, 1.40, 2.25, 3.15, 4.00** Австралийские золотоискатели. **14.50, 15.15** Нефритовая лихорадка. **15.40, 18.10** Поисковая команда в Австралии. **16.25, 19.40, 0.00** Могучие реки. **17.20** Строительство гигантов. **20.30, 21.25, 22.15, 23.10** Речные чудовища. **4.45** Выживание в лесу. **5.35** Виртуозы резьбы по дереву.

### HISTORY

**6.00, 6.30, 5.15** Невероятные изобретения. **6.55, 3.00, 3.45, 4.30** Музейные тайны. **7.40** Китай. Тайны Запретного города. **8.30** Новые тайны терракотовых воинов. **9.25, 10.25** По следам вождя гуннов Аттилы. **11.20** Юлий Цезарь без прикрас. **12.25** Генрих VIII: человек, монарх, чудовище. **13.15, 14.15, 15.20, 1.00** История христианства. **16.25, 17.25** Кельты: кровью и железом. **18.30, 19.20** Мифические существа. **20.10** Затерянная пирамида Египта. **21.00** Оружейники: искусство войны. **21.50** Смертоносный интеллект. **22.35** Тайны музеев. **23.25, 0.10** Могилы викингов. **2.05** Тридцатилетняя война — Железный век.

### NATURE

**6.10, 12.25, 13.15, 14.10** Выживание в дикой природе. **7.00, 7.45, 8.35, 9.20, 10.05, 10.55, 11.40, 3.25** Ветеринар из Йоркшира. **15.00** В поисках русского тигра. **15.55, 20.50** Нил: величайшая из рек. **17.00, 18.00** Дикая Канада II. **19.05** Дикая Центральная Америка с Найджелом Марвеном. **19.55** Опасные исполины. **21.55, 22.40, 1.45** Мутации погоды. **23.25** Рассказы о бурях. **0.10** Невероятные встречи с животными. **1.00** Хищные питомцы. **2.35** Анатомия крупнейших животных. **4.10** Уличный ветеринар. **4.35, 5.05, 5.30** Лучшие друзья собаки.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Научные глупости. **6.55, 5.45** Игры разума. **7.20** Настоящий суперкар. **8.10, 4.55** Авто — SOS. **9.00, 9.55, 10.50** Осушить океан. **11.40, 12.10, 12.35, 13.00** Сделать за один день. **13.25, 14.15** Величайшие сокровища древнего мира. **15.05** «Фри-соло». **16.55, 17.45** Европа с высоты птичьего полета. **18.35** Взгляд изнутри: Вторая мировая война. **21.00** Суперсооружения Третьего рейха: к бою готовы. **21.50** Как устроен интернет: 50 лет онлайн. **23.30, 0.25** Эвакуация Земли. **1.10, 1.55, 2.40, 3.25, 4.10** Расследование авиакатастроф.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 7.00, 9.05, 10.05, 11.05, 12.05, 13.10, 14.10, 15.10, 16.10, 17.15, 18.00, 19.00, 20.05, 21.05, 22.05, 23.05, 0.05, 1.05, 2.05, 3.05, 4.05, 5.05** Охота с луком. **6.30, 7.30, 8.35, 9.35, 10.35, 11.35, 12.40, 13.40, 14.40, 15.40, 16.40, 17.45, 18.30, 19.30, 20.35, 21.35, 22.35, 23.35, 0.35, 1.35, 2.35, 3.35, 4.35, 5.30** Охотничья и рыболовная кухня. **8.00** На рыбалку с охотой.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.10, 14.10, 22.00, 2.10** Домашняя экспертиза. **6.30, 10.40, 14.40, 18.35, 22.30, 2.40** Деревянная Россия. **6.55, 11.10, 15.05, 19.05, 23.00, 3.10** Старые дачи. **7.30, 11.45, 15.40, 19.35, 23.35, 3.55** Милости просим. **8.00, 12.15, 16.10, 20.05, 0.00, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 12.35, 16.25, 20.25, 0.20, 4.35** Забытые ремесла. **8.35, 12.50, 16.45, 20.40, 0.40, 4.50** Домашние заготовки. **8.50, 13.05, 17.00, 20.55, 0.55, 5.05** Семейный обед. **9.20, 3.40** Травовед. **9.40, 13.35, 17.35, 1.25, 5.35** ТОП-10. **18.05** Сравнительный анализ. **21.30** Осторожно: злая собака. **1.55** Готовим на природе.

## Беларусь 1

**6.25** Х/ф **«ЦВЕТ СПЕЛОЙ ВИШНИ».**

**8.20** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.45** Истории спасения.

**10.40** Зона Х. Итоги недели.

**11.15** Вокруг планеты.

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Х/ф **«ЗАКОН СОХРАНЕНИЯ ЛЮБВИ».**

**14.30** Маршрут построен.

**15.15** Родные люди.

**15.30** Х/ф **«1418 ДНЕЙ. ИСТОРИЯ ПОБЕДЫ».**

**16.10** Один день.

**16.40, 19.10** Х/ф **«ОКНА ДОМА ТВОЕГО».**

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.05** Х/ф **«ТРЕТЬЯ ЖИЗНЬ ДАРЬИ КИРИЛЛОВНЫ».**

## Беларусь 2

**6.55** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**

**8.35** Т/с **«СТИЧ!».**

**9.20, 19.40** Телебарометр.

**9.25** «Суперженa». Реалити-шоу.

**10.20** «До свидания». Реалити-шоу.

**11.05** «Человек-невидимка». Реалити-шоу.

**12.00** «Мир наизнанку. Бразилия». Познавательное трэвел-шоу.

**13.00** Х/ф **«ДЕЖАВЮ».**

**15.00** «Папа попал». Реалити-шоу.

**17.15** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**18.00** Х/ф **«ТОКИЙСКАЯ НЕВЕСТА».**

**20.15** «Орел и Решка. Морской сезон». Трэвел-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.15** Х/ф **«МИЛЛИОНЕР ИЗ ТРУЩОБ».**

**23.20** «Муж напрокат». Реалити-шоу.

## Беларусь 3

**7.35** «Святыні Беларусі».

**8.00, 13.10, 20.20** Навіны культуры.

**8.20, 13.30** «Гэты дзень».

**8.25** «Тры плюс два». Мастацкі фільм [СТ].

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.25** «Беларуская кухня». Рулет па-кабыльску.

**11.00** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.50** «Гаспадар тайгі». Мастацкі фільм.

**13.35** «Дажывем да панядзелка». Мастацкі фільм [СТ].

**15.20** «Мяжа». Дакументальны фільм. Рэжысёр – Яўген Сяцько.

**16.00** Пётр Елфімаў. «Незабыўнае». Лепшае з творчай спадчыны ансамбля «Песняры».

**17.40** «Вялікая сям'я». Мастацкі фільм [СТ].

**19.25** «Кадры жыцця». Народная артыстка Беларусі Анастасія Масквіна.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Пётр Лешчанка. Усё, што было…» Мастацкі фільм.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 18.00** Наши новости.

**7.10** «Здоровье».

**8.10** «Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.10** «Воскресная проповедь».

**9.25** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.45** Х/ф **«ЛЮБИТЬ НЕЛЬЗЯ ЗАБЫТЬ».**

**11.25** «Видели видео?».

**12.50** Премьера. «На дачу!» с Ларисой Гузеевой.

**14.00** «Татьяна Тарасова. Лёд, которым я живу».

**15.00, 16.20** Музыкальный фестиваль «Белые ночи». «25 лет «Русскому радио».

**18.15** «Три аккорда». Новый сезон.

**20.00** Контуры.

**21.20** «Клуб Весёлых и Находчивых». Высшая лига.

**23.10** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**23.30** Х/ф **«ЖЁЛТЫЙ КАРЛИК».**

## СТВ

**6.35, 0.00** «Эликсир молодости».

**8.20** Документальный проект.

**9.10** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.00, 20.50** Документальный спецпроект.

**12.45, 13.40, 16.40** Т/с **«ВСКРЫТИЕ ПОКАЖЕТ».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**22.30** «Засекреченные списки».

## Мир

**5.00** Мультфильмы.

**6.55** Х/ф **«СТАРИКИ-РАЗБОЙНИКИ».**

**8.50** «Наше кино. Неувядающие». Сергей Бодров.

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.10, 16.15** Т/с **«ЛЮБОПЫТНАЯ ВАРВАРА 2».**

**18.20, 19.30, 1.00** Т/с **«ЛЮБОПЫТНАЯ ВАРВАРА 3».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**3.30** Х/ф **«СЛОНЫ МОИ ДРУЗЬЯ».**

## НТВ-Беларусь

**6.10** «Астропрогноз».

**6.15** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.45** «50 рецептов первого».

**7.20** «Кто в доме хозяин?».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** Их нравы.

**8.35** «24 вопроса».

**9.05** Беларусы.

**9.30** «Я хочу это увидеть!».

**10.20** «Первая передача».

**10.50** «Чудо техники».

**11.35** «Дачный ответ».

**12.30** «НашПотребНадзор».

**13.25** «Поедем, поедим!».

**14.05** Истории спасения.

**14.35** Х/ф **«ОБРАТНЫЙ ОТСЧЕТ».**

**16.20** «ЧП. Расследование».

**16.45** «Следствие вели…».

**18.10** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.05** «Звезды сошлись».

**21.20** Ты не поверишь!

**22.15** «Основано на реальных событиях».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«ТАНЕЦ ДЛЯ ДВОИХ».**

**10.15** «Устами младенца».

**11.00** ВЕСТИ.

**11.30** Х/ф **«ОТЦОВСКИЙ ИНСТИНКТ».**

**14.50** Х/ф **«ИЗМОРОЗЬ».**

**16.35** Х/ф **«СЕРЕБРЯНЫЙ ОТБЛЕСК СЧАСТЬЯ».**

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**21.30** Х/ф **«ТАМ, ГДЕ ЕСТЬ СЧАСТЬЕ ДЛЯ МЕНЯ».**

**23.00** «В людях».

**23.30** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**0.10** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

# кіно і спорт

### TV1000

**7.50** Ангелы и Демоны. **10.20** Сумерки. **12.25** Сумерки. Сага. Новолуние. **14.40** Сумерки. Сага. Затмение. **16.55** Византия. **19.05, 20.40** Дракула. **23.00** Соломон Кейн. **0.40** Ещё одна из рода Болейн. **2.55** Госпожа Бовари. **5.00** Гонка века.

### TV1000 ACTION

**7.05, 15.50** Точка обстрела. **8.50** Власть страха. **10.50** Газетчик. **12.35** Нокаут. **14.05** Немыслимое. **17.20** Хэллоуин. **19.00** Хэллоуин 2. **20.35** Реинкарнация. **22.45** Паранормальное. **0.35** Стелс. **2.50** Легенда. **5.10** Вавилон Н.Э.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.20** Любовь-морковь. **9.15** Любовь-морковь 2. **11.00** Любовь-морковь 3. **12.45** Чёрная молния. **14.35** Стиляги. **17.05** Брат. **19.00** Брат 2. **21.20** Бык. **23.15** Бумер. **1.30** Бумер 2. **3.40** Ярды.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **7.45** «Рисуем сказки». **8.00** Х/ф **«БЕТХОВЕН». 9.45** Х/ф **«ЯДОВИТАЯ АКУЛА». 11.45** Х/ф **«ДРОЖЬ ЗЕМЛИ: ПОВТОРНЫЙ УДАР». 13.45** Х/ф **«ПАРК ЮРСКОГО ПЕРИОДА». 16.15** Х/ф **«ПАРК ЮРСКОГО ПЕРИОДА: ЗАТЕРЯННЫЙ МИР». 19.00** Х/ф **«ПАРК ЮРСКОГО ПЕРИОДА-3». 20.45** Х/ф **«ДРОЖЬ ЗЕМЛИ: ВОЗВРАЩЕНИЕ ЧУДОВИЩ». 23.00** Х/ф **«ЗВЕРИНАЯ ЯРОСТЬ». 1.00** Х/ф **«ХЭЛЛФЕСТ». 2.15, 3.00, 3.45, 4.30, 5.15** «Тайные знаки».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ШИРОКА РЕКА». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ОБЩАЯ ТЕРАПИЯ». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«ЖИЗНЬ, КОТОРОЙ НЕ БЫЛО». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«УСЛОВИЯ КОНТРАКТА 2». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«ПОД БОЛЬШОЙ МЕДВЕДИЦЕЙ». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«МЕТОД ФРЕЙДА 2».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.00** Х/ф **«ЖЕНЩИНЫ ПРОТИВ МУЖЧИН». 3.20** Х/ф **«ОПЕРАЦИЯ** Х/Ф **«. 5.15** Х/ф **«КОРСИКАНЕЦ». 7.05** Х/ф **«ЛЮБОВЬ НЕ ПО РАЗМЕРУ». 9.00** Х/ф **«ОДНОКЛАССНИЦЫ». 10.30** Х/ф **«ОДНОКЛАССНИЦЫ: НОВЫЙ ПОВОРОТ». 11.55** Х/ф **«НОВЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ АЛАДДИНА». 13.55** Х/ф **«СЕМЕЙНОЕ ОГРАБЛЕНИЕ». 15.35** Х/ф **«КАБЕЛЬЩИК». 17.30** Х/ф **«ГОСПОЖА ГОРНИЧНАЯ». 19.30** Х/ф **«ДОМАШНЕЕ ВИДЕО». 21.15** Х/ф **«ДЖУНГЛИ ЗОВУТ! В ПОИСКАХ МАРСУПИЛАМИ». 23.15** Х/ф **«НЕВЕРОЯТНЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ ФАКИРА».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.40, 1.45, 2.45, 3.45, 4.40, 5.40** Т/с **«ОПЕРАЦИЯ «САТАНА». 6.40, 7.40, 8.40, 9.45, 10.45, 11.45, 12.45, 13.45, 14.45, 15.45, 16.45, 17.45** Т/с **«ВТОРОЕ ЗРЕНИЕ». 18.45, 19.40, 20.40, 21.35** Т/с **«ДИЛЕТАНТ». 22.30, 23.20** Т/с **«КЛЕТКА».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.35** «КВН. ПА-НАШАМУ». **9.05** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **9.30** Мультфильмы «СКУБИ ДУ». **10.00** Шоу «ДЕТСКИЙ КВН». **11.00** Шоу «САРАНХЭ». **12.00** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.45** Приключения «СМУРФИКИ 2». **14.35** Х/ф **«ВСПОМНИТЬ ВСЁ». 16.35** Х/ф **«УСКОРЕНИЕ». 18.15** Фильм-катастрофа «2012». **21.00** Шоу «ПОЛНЫЙ БЛЭКАУТ». **22.00** Шоу «ДЕЛО БЫЛО ВЕЧЕРОМ». **23.00** Шоу «НАШ РЕМОНТ». **23.35** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **1.15** «ПРОСТО КУХНЯ». **1.40** Make-over шоу «РОГОВ В ДЕЛЕ». **2.30** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.05** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Футбол. Чемпионат Англии. Манчестер Юнайтед – Кристал Пэлас. **8.50** Хоккей. КХЛ. Динамо-Минск – Локомотив. **10.50** Мини-футбол. Чемпионат Беларуси. БЧ – Столица. **12.50** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 24-й тур. Слуцк – БАТЭ. **14.50** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 24-й тур. Ислочь – Динамо-Минск. **17.00, 21.50** Теннис. WTA. Рим. Полуфинал. **18.20, 20.55** Спортцентр. **20.25** Пит-стоп. **21.05** Футбол. Чемпионат Беларуси. Обзор тура.

### EUROSPORT

**4.00, 20.35** Автогонки. «24 часа Ле-Мана». **16.05** Велоспорт. «Тур де Франс». 20-й этап. **16.40, 23.05** Велоспорт. «Тур де Франс». 21-й этап. **22.30** Ралли. ERC. Азорские острова. Обзор.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 9.30** Советы для каждого. **6.30, 10.40, 13.30, 17.00, 1.10** Испытание на прочность. **6.55, 18.05** Металломщики. **7.40, 10.05, 12.55, 16.40, 19.05, 23.40, 1.40, 3.50** Итоговые новости. **7.55, 14.20, 2.10** Тест на «Драйве». **8.30, 21.35** Автолайф. **8.50** Советы юриста. **10.20** Тест с дядей Ваней. **11.15, 19.25, 22.55, 3.05** Кругосветка по бездорожью. **11.45, 23.25, 3.35** Авто: вторые руки. **12.05, 20.10, 0.05** Супергрузовики. **13.10, 0.55** Проверка на дороге. **14.05, 1.55** Вторичка. **14.50, 2.40** Сити-тестер. **15.25, 21.00, 4.50** Возвращение легенды. **15.55** Байки про байки. **18.55** Обновление. **19.55** Школа внедорожного вождения. **21.50, 5.20** Вечер с Пикуленко. **22.35** Хорошо забытое. **4.05** Трасса А2.

### EXPLORE

**6.00, 6.45, 7.35, 8.30** Речные чудовища. **9.20** Могучие реки. **10.15, 10.40, 22.00, 22.25** Нефритовая лихорадка. **11.05** Строительство гигантов. **11.55, 21.15** Поисковая команда в Австралии. **12.40, 13.25, 14.15, 15.00, 15.45, 16.35, 17.20, 18.10, 18.55, 19.40, 20.30** Австралийские золотоискатели. **22.50, 23.40** Ржавые тачки на прокачку. **0.30, 1.15, 2.00, 2.45, 3.30, 4.15** Деревенский дом. **5.00** Выживание в лесу.

### HISTORY

**6.00, 6.25, 5.20** Невероятные изобретения. **6.50** Запретная история. **7.40, 3.00, 3.45, 4.35** Музейные тайны. **8.25, 9.20, 11.50, 12.40** Расшифрованные сокровища. **10.10, 11.00** Мифические существа. **13.30, 14.30** По следам вождя гуннов Аттилы. **15.25** Юлий Цезарь без прикрас. **16.30** Генрих VIII: человек, монарх, чудовище. **17.20** История христианства. **18.20** Смертоносный интеллект. **19.10** Боевые корабли. **20.00** Древние суперстроения. **20.55** Шелковый путь между Востоком и Западом. **21.50** Затерянная пирамида Египта. **22.40** Оружейники: искусство войны. **23.30, 0.20** Могилы викингов. **1.05, 2.05** Тридцатилетняя война – Железный век.

### NATURE

**6.00, 6.50, 7.40, 22.45, 23.35** Выживание в дикой природе. **8.30, 9.25, 10.15** Один дикий день. **11.05, 12.00** Дикая Швейцария. **12.55, 13.55, 19.35, 20.40** Дикая Канада II. **15.00, 21.40** Нил: величайшая из рек. **16.05, 16.55** Бескрайняя Африка. **17.50** Великая рифтовая долина – дикое сердце Африки. **18.40** Тайная жизнь слонов. **0.25** Невероятные встречи с животными. **1.15** Хищные питомцы. **2.05, 5.00** Мутации погоды. **2.50** Ветеринар из Йоркшира. **3.40, 4.05, 4.35** Уличный ветеринар.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Научные глупости. **7.00, 5.45** Игры разума. **7.25, 5.00** Настоящий суперкар. **8.15, 2.00, 2.40** Авто-SOS. **9.05, 9.55, 10.50, 11.40, 12.30, 13.20** Затерянные сокровища Египта. **14.10, 15.00** Международный аэропорт Дубай. **15.55, 16.20, 16.45, 17.10, 3.30, 3.50, 4.15, 4.35** Сделать за один день. **17.35, 18.25** Расследование авиакатастроф. **19.15, 20.10** Инстинкт выживания. **21.00, 21.50, 0.25, 1.10** Путешествия с Гордоном Рамзи. **22.40, 23.30** Инстинкт выживания, Китай.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 9.55, 13.55, 18.00, 22.05, 2.00** Рыболовная школа для взрослых. **6.30, 10.25, 14.25, 18.30, 22.35, 2.30** Охота в Новом Свете. **6.55, 3.10** Рыболовы. **7.25, 15.25, 23.30** Вкусные рецепты рыболова. **7.55, 0.00, 4.10** Рыболовная Россия. **8.25, 0.30, 4.40** Рыболовные экспедиции в Норвегию. **8.55, 12.50, 16.55, 1.00, 5.05** Рыбалка без границ. **9.25, 1.30, 5.35** Донка против фидера. **10.50, 14.50, 18.55** Рыбалка в России. **11.20, 19.25, 3.45** Вкусные рецепты охотника. **11.50, 15.55, 20.00** Рыбалка 360. **12.25, 16.25, 20.30** Егерский кордон. **13.20, 17.30, 21.35, 23.00** Мир рыболова. **21.00** На рыбалку с охотой. **2.55** Крылатые охотники.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.10, 22.00** Домашняя экспертиза. **6.30, 10.40, 14.40, 18.35, 22.25, 2.35** Деревянная Россия. **6.55, 11.10, 15.05, 19.05, 22.55, 3.05** Старые дачи. **7.30, 11.45, 15.40, 19.35, 23.30, 3.50** Милости просим. **8.00, 12.15, 16.10, 20.05, 0.00, 4.15** Лучки-пучки. **8.20, 12.35, 16.25, 20.20, 0.20, 4.30** Забытые ремесла. **8.35, 12.50, 16.45, 20.35, 0.35, 4.50** Домашние заготовки. **8.50, 13.05, 17.00, 20.55, 0.50, 5.05** Семейный обед. **9.20, 3.35** Букварь дачника. **9.40, 13.35, 1.25** ТОП-10. **14.10, 18.05, 2.10** Сравнительный анализ. **17.35, 21.25, 5.35** Осторожно: злая собака. **1.50** Готовим на природе.


Ілюстрацыя pinterest.com.

# Як Пагоня стала сімвалам і гербам беларускага народа

**Герб Пагоня – старадаўні сімвал і шматвяковы дзяржаўны герб Вялікага Княства Літоўскага. «РГ» разбіраецца, як, калі і чаму вершнік на кані стаў адным з галоўных сімвалаў на беларускай тэрыторыі.**

### Як міфічны Нарымонт і рэальны Віцень звязаныя з Пагоняй

Летапісцы канца 15 – пачатку 16 стагоддзя распавядалі пра з'яўленне герба Пагоні яшчэ ў канцы 13 стагоддзя. Стваральнікам рабілі міфічнага вялікага князя **Нарымонта Раманавіча**.

У Хроніцы Літоўскай і Жамойцкай гэта апісваюць такім чынам: «Той Наримунт мел герб або клейнот рицерства, Великому князству Литовскому заставил его», сам герб апісвалі і тлумачылі так: «В гербе муж збройный на коню белом, в полю червоном, меч голый, як бы кого гонючи держал над головою, и есть оттоля названы погоня».

Існаванне князя Нарымонта ў рэальным жыцці не доказвае ні адна гістарычная крыніца.

> **У Густынскім летапісе, які датуецца 15 стагоддзем, герб Пагоню прыпісваюць ужо рэальнаму вялікаму князю Віценю.**

Густынскі летапіс сведчыць, што Віцень увайшоў у беларускую гісторыю як дзяржаўны дзеяч, які надаў Пагоні дзяржаўны статус:

«Витен нача княжити над Литвою, измысли себе герб и всему князству Литовскому печать: Рыцар збройны на коне з мечем, еже ныне наричут Погоня».

Частка гісторыкаў сумняваецца, што ў 13 стагоддзі на тэрыторыю Беларусі ўжо пранiклі геральдычныя традыцыі, якія дазваляюць сцвярджаць аб умацаванні Пагоні як дзяржаўнага герба.

### Назва Пагоня з'явілася ў герба пазней, чым з'явіўся сам герб

У кнізе «Сфрагістыка і геральдыка Беларусі» адзначаецца, што герб Пагоня з'явіўся ў выніку працэсу геральдызацыі ад канца 14 – да канца 15 стагоддзя з выявай пячатак вялікіх князёў **Ягайлы** і **Вітаўта**.

Спачатку гербавая выява ўвасабляла суверэннага ўладара-князя і магла мець пэўныя адрозныя элементы: цмока пад капытамі каня, адсутнасць тарчы ў вершніка, дзіду замест мяча або асабістыя гербы Ягайлы ці Вітаўта на тарчы вершніка – «Бойчу» ці «Калюмны».

Менавіта апошні варыянт – з «Калюмнамі» – зафіксаваны ў заходне-еўрапейскіх гербоўніках 1-й паловы 15 стагоддзя **Armorial Lyncenich** і **Codex Bergshammar**, дзе герб быў падпісаны **Hertoghe van lettouwen onde van rusen** і **Hertoge lettouwen**.

Гэта сведчыць аб познім часе з'яўлення назвы Пагоня, бо яе не ведаў і польскі храніст **Ян Длугаш**, які ў другой палове 15 стагоддзя апісваў харугвы ВКЛ з выявай вершніка пад Грунвальдам.

Толькі ў канцы 15 – першай палове 16 стагоддзя за гербам замацавалася назва Пагоня, што было звязанае з пераасэнсаваннем гербавай выявы. Пра замацаванне назвы сведчыць загад аб чаканцы манет ад апошняга з Ягайлавічаў – караля польскага і вялікага князя літоўскага **Жыгімонта Аўгуста**. У 1562 годзе ён загадаў біць манеты-траякі, «а на сем з одное стороны два першие слова, которими ся починаеть писати имя нашо господарское, а з другое стороны… герб Погоня». Гэта сведчыць пра тое, што ён разумеў Пагоню не столькі як свой дынастычны, колькі дзяржаўны герб ВКЛ. Статус ВКЛ 1566 года фіксаваў менавіта такі яго статус. У такой якасці герб праіснаваў да канца 18 стагоддзя на канцылярскіх пячатках, манетах, ваяводскіх гербах і харугвах ВКЛ.

### Чаму менавіта Пагоня стала дзяржаўным гербам

Герб Пагоня мог бы застацца звычайным дынастычным гербам, як, напрыклад, падобныя гербы з вершнікамі заставаліся дынастычнымі ў Заходняй Еўропе. Аднак умовы жыцця і беларуская гісторыя паўплывалі на яго дзяржаўны статус.

> **Міжнароднае становішча, умовы жыцця народа вымушалі знаходзіцца ў бесперапыннай гатоўнасці да абароны: бясконцыя напады крыжакоў, татараў, бітвы супраць галіцка-валынскіх князёў.**

Нарэшце, гатоўнасці да абароны патрабаваў і вялікакняжацкі ліст ад 1387 года:

«Згодна са старадаўнімі звычаямі, военны паход з'яўляецца абавязкам, які выконваецца за кошт уласных магчымасцей і сродкаў. У тым выпадку, калі ўзнікае неабходнасць праследаваць ворагаў, непрыяцеляў нашых…

> **У праследаванні ворагаў, якое па-народнаму завецца Пагоняю, павінны ўдзельнічаць не толькі рыцары, але і кожны мужчына, які можа насіць зброю, якога б ён не быў паходжання і стану».**

Так у гісторыю Беларусі ўвайшло паняцце **пагоні** – вайсковай павіннасці, якая прадпісвала кожнаму здольнаму мужчыну насіць зброю і конна ўдзельнічаць у праследаванні ворага, выява вершніка стала разумецца як сімвал абаронцы Айчыны.


Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

● КАЛЯНДАР

**11 ВЕРАСНЯ**

**1973.** Путч **Аўгуста Піначэта** ўстанавіў у Чылі 17-гадовую дыктатуру.

**2001.** Тэрарыстычная атака на Сусветны гандлёвы цэнтр і Пентагон у ЗША.

**12 ВЕРАСНЯ**

**1893.** У Будславе нарадзілася **Паўліна Мядзёлка**, дзеячка беларускай культуры (пам. 13.2.1974)



**1945.** У Дамашах Маладзечанскага раёна нарадзіўся **Рыгор Семашкевіч**, беларускі пісьменнік і літаратуразнаўца (пам. 11.6.1982).

**13 ВЕРАСНЯ**

1937. Нарадзіўся **Уладзімір Содаль**, в. Мормаль, Жлобінскі раён (пам. 15.04.2015), беларускі літаратуразнаўца, журналіст, даследчык, краязнаўца. Публікаваўся ў «Рэгіянальнай газеце».

**14 ВЕРАСНЯ**

**1938.** Нарадзіўся **Леанід Левановіч**, в. Клеявічы Касцюковіцкага раёна, беларускі пісьменнік. Жыве ў вёсцы Пятрылава Вілейскага раёна.

**1965.** Нарадзіўся **Лявон Вольскі**, беларускі рок-музыка.

**15 ВЕРАСНЯ**

**1794.** Расійская армія пад камандаваннем **Аляксандра Суворава** разбіла пры Кобрыне войска Рэчы Паспалітай.

**1928.** Англійскі мікрабіёлаг **Аляксандр Флемінг** выдзеліў пеніцылін.

**16 ВЕРАСНЯ**

**1999.** Знікненне пры нявысветленых абставінах беларускага палітыка **Віктара Ганчара**. Ад 1991 да 1994 – першы намеснік старшыні Маладзечанскага гарвыканкама **Генадзя Карпенкі**.

**17 ВЕРАСНЯ**

**1939.** Чырвоная Армія пачала паход з Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну. Страты савецкага боку склалі каля 1 тысячы чалавек забітымі, звыш 2 тысяч параненымі. Страты польскага боку: 3,5 тысячы забітых, 20 тысяч параненых і зніклых без вестак, 454,7 тысячы палонных.

Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.

# Дзённік мамы чацвертакласніцы. Так сабе лета, першая змена і шматразовае запаўненне школьнага дзённіка



**Пасля лета, якое ў гэтым годзе мы правялі не вельмі, Варвара стала вучаніцай чацвертага класа.**

З-за пандэміі мора сёлета не ўбачылі. Стараліся кампенсаваць яго вясковай рэчкай, але кампенсавалася не асабліва. З яркіх момантаў лета – хіба што наведванне сядзібы Агінскага ў Залессі. Паблукалі па сцяжынах парку і шыкоўных пакоях палаца. Пасля чаго Варвара з сястрычкай Юляй адзначылі, што, калі б яны жылі ў такіх умовах, зусім не сумная была б вымушаная самаізаляцыя з-за пандэміі каранавіруса. Па ўласным парку пашпацыравалі, на балі патанцавалі, у більярд пагулялі, паглядзелі, як там пачуваюцца сяляне ва ўласных вёсках – вось і дзень прайшоў.

Апошнія летнія выхадныя мы правялі ў маладзечанскім аквапарку. Дзецям спадабаліся горкі, маме – джакузі.

У жніўні традыцыйна пайшлі на шопінг да школы. Але Варвара ў нас дзіця выгаднае: амаль усё школьнае адзенне, набытае год-два таму, у добрым стане і якраз. Абмежаваліся канцылярыяй, спартыўнай формай ды абуткам.

Сёлета Варварын клас вучыцца ў першую змену. Добра гэта ці дрэнна, дзеці пакуль не паспелі зразумець. А вось мама ўжо адчула зручнасць – усё ж выпраўляць у школу абедзвюх у адзін час значна лягчэй.

Ад другога тыдня вучобы – пасля ўрокаў факультатывы па харэаграфіі, ігры на дудцы і беларускай мове. На тыдні ёсць пару такіх дзён, што дамоў Варвара будзе прыходзіць у адзін час з мамай.

Свята на першага верасня ў чацвертых класаў не было. Урачыстасці ладзілі для першых і адзінаццатых. Праўда, не на школьным двары, як звычайна, а ў актавай зале. Варын танцавальны калектыў падарыў танец удзельнікам урачыстасці. Канцэрту папярэднічалі некалькі рэпетыцый у канцы жніўня, бо танец за лета танцоры крыху забыліся.

Ужо робім дамашнія заданні, атрымліваем першыя адзнакі, пакуль нядрэнныя. Паспяхова падпісалі некалькі сшыткаў для класных, дамашніх і кантрольных работ. А вось запаўненне дзённіка было менш паспяховае. На першых старонках нельга рабіць памылкі, выпраўленні і, крый божа, замазваць нешта карэктарам. Так аформіць дзённік у нас атрымалася толькі з трэцяга разу. Першы сапсавалі – з-за мамы, другі – з-за Варвары, трэці – не сапсавалі. Быў яшчэ чацверты дзённік, на ўсялякі выпадак, але ён застаўся чыстым. Не спатрэбіцца самім, то на наступны навучальны год падорым малодшай стрычечнай сястрычцы. Калі дзяржаўная сімволіка не памяняецца.

Ад першых дзён верасня Варвара крыху хвалюецца, як зможа сумяшчаць урокі з дудкай і танцамі, аднак выпісвацца ніадкуль не хоча.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




Фота nachalka.sch223.minskedu.gov.by.



На пляцоўцы гуртка «Тэхнічная творчасць».

# Вакал, акцёрскае майстэрства, тэхнічная творчасць

## У Вілейскім цэнтры дадатковай адукацыі прэзентавалі гурткі

ВІЛЕЙКА

**У суботу, 5 верасня, у Цэнтры дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі ў Вілейцы прэзентавалі дзейнасць гурткоў, якія будуць тут працаваць у гэтым навучальным годзе.**



Дзяўчынка і слімак на пляцоўцы гуртка «Жывая планета».

Цэнтр месціцца па вуліцы Савецкай, 54 – у будынку, які памятае настаўніка і мастака Уладзіслава Страмінскага і вучня Яўгена Скурко (будучага паэта Максіма Танка).

**Канцэрт і работу пляцовак планавалі зладзіць на вуліцы, аднак восеньскае пахмурнае надвор'е крыху змяніла планы.**

На мерапрыемства запрасілі вучняў вілейскіх школ – патэнцыйных наведнікаў гурткоў. На канцэрце ў актавай зале выступіў дзіцячы вакальны гурт «Званочкі», гледачам прапанавалі гульні і загадкі. А педагогі па вакале і фартэпіяна расказалі пра свае гурткі:

– Тых, хто хоча навучыцца прыгожа спяваць і даведацца, што такое сальфеджыа, запрашаю ў вакальную студыю «Канфецці». Наша студыя яшчэ маладая, ёй чатыры гады. Аднак мы з маімі вучнямі ўжо маем перамогі ў міжнародных, рэспубліканскіх і абласных конкурсах, часта выступаем на гарадскіх святах, – адзначыла кіраўнік вакальнай студыі **Дыяна Рагозіна**.

Пасля дзеці рушылі ў спартыўную залу, дзе работнікі цэнтра – педагогі дадатковай адукацыі – прадстаўлялі гурткі. Тут жа працавалі фотазоны.

На пляцоўцы «Жывая планета» можна было паглядзець і пагладзіць хамяка, марскую свінку і слімака.

**А самыя смелыя садзілі на далоні вялізных прусакоў.**

Пляцоўка па акцёрскім майстэрстве дала магчымасць адчуць сябе на сцэне – паказаць жырафа і змяю, радасць і здзіўленне.

Мастацкія гурткі падрыхтавалі некалькі выстаў, зладзілі майстар-клас па вырабе бранзалетаў з паперы. А на пляцоўцы тэхнічнай творчасці прадэманстравалі, якія машыны на пульце кіравання можна сабраць самастойна.

– Нашы гурткі бясплатныя. Дзяцей запісваем на працягу ўсяго навучальнага года. У рамках тыдня ўстаноў дадатковай адукацыі мы зладзілі сённяшнюю прэзентацыю. Мерапрыемствы адбываюцца на працягу ўсяго тыдня, да 12 верасня, – расказала дырэктар Цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі **Наталля Рыжэвіч**.



Тэкст і фота –
Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# Педагог атрымала штраф за правядзенне масавага мерапрыемства

**7 верасня ў Вілейскім раённым судзе было пасяджэнне па справе Вольгі Шостак. Вольгу судзілі па артыкуле 23.34 Адміністрацыйнага кодэкса Рэспублікі Беларусь – парушэнне парадку арганізацыі або правядзення масавых мерапрыемстваў. Па рашэнні суда Вольга павінна заплаціць штраф – 20 базавых велічынь. Гэта 540 рублёў.**

ВІЛЕЙКА

Суддзя на пасяджэнні – **Таццяна Барыс**, абаронца – **Андрэй Барташэвіч**.

Вольга – педагог, працуе метадыстам у Вілейскім цэнтры дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі. Яна мама дваіх непаўнагадовых дзяцей.

### Абвінавачаная: я заўсёды была за дыялог з уладамі

У судзе Вольга і яе абаронца размаўлялі па-беларуску. Весці пасяджэнне на беларускай мове папрасілі ў хадайніцтве і суддзю. Аднак суддзя хадайніцтва не задаволіла.

Іншае хадайніцтва – далучыць да справы шматлікія дыпломы і падзякі розных узроўняў, што атрымала Вольга за чатыры гады, задаволілі.

– Гэтыя дыпломы сведчаць пра тое, што я – сумленная, законапаслухмяная грамадзянка, шмат рабіла для таго, каб праславіць родную Вілейшчыну. Апошнія некалькі год я кіравала праектам «Планета навуковых цудаў». Я і мае вучні маем мноства дыпломаў і лістоў падзякі. Дзякуючы нашай дзейнасці Вілейка атрымлівала спонсарскую дапамогу, у Цэнтры дадатковай адукацыі з'явіўся стэм-клас і 3D-прынтар.

Вольга таксама адзначыла, што ў 2019 годзе атрымала Ганаровую грамату ад упраўлення адукацыі, спорту і турызму. А ў сакавіку 2020 года яе кандыдатуру прапанавалі на Дошку гонару гэтай установы.

– Я заўсёды ішла насустрач уладам і выступала за дыялог, – падсумавала Вольга.

### Вольга не лічыць сябе вінаватай

Суддзя агучыла пратакол, згодна з якім 24 жніўня, ад 19:00 да 20:30, Шостак прыняла ўдзел у несанкцыянiраваным мітыгу побач з плошчай Свабоды без дазволу на гэта райвыканкама.

Вольга не пагадзілася з пратаколам. Яна згадала артыкулы 2, 3, 4, 7, 33, 35 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Сказала, што, кіруючыся гэтымі артыкуламі, хацела правесці сустрэчу з вілейчукамі 24 жніўня ў 19:00. У гэты ж дзень начальнік міліцыі Вілейкі **Аляксандр Бяндасаў** сказаў ёй, што трэба перавесці сустрэчу ў прававое поле – гэта значыць, атрымаць дазвол Вілейскага райвыканкама на правядзенне сходу жыхароў.

### Вілейшчыну хваліла і раней. Але штрафу не давалі

– Я ў той жа дзень пайшла ў выканкам і напісала гэту паперу. Адказ мне аддалі ў 18:55. Аказваецца, такі запыт трэба падаваць за 15 дзён і гэта платная паслуга. Я пайшла на плошчу, дзе ўжо сабраліся людзі, і дала ім пачытаць дакумент. Хвілін праз 20 пачалі разыходзіцца. Я і некалькі чалавек пайшлі ў бок плошчы Свабоды. Па дарозе абмяркоўвалі, як запрасіць на сустрэчу дэпутата **Ірыну Супрановіч**. Асабістых меркаванняў я не выказвала, уладу не абражала.

Сказала, што Вілейскі край – гэта дыямент. І абыходзіцца з ім трэба па-гаспадарску. Раней, калі я хваліла Вілейшчыну, мне не давалі штрафаў.

### Абвінавачаная: кіруюся галоўным законам – Канстытуцыяй

Суддзя запыталася ў Вольгі, ці ведала яна пра Закон аб масавых мерапрыемствах. Жанчына адказала, што асабліва не ведала, бо кіруецца асноўным законам – Канстытуцыяй.

На думку Вольгі, дзіўна, што Канстытуцыя кажа пра свабоду сходаў і мітынгаў, а ў іншых актах (Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 24.01.2019 №49, «РГ») пішуць пра тое, што за такія мерапрыемствы, аказваецца, трэба плаціць.

Вольга таксама спасылалася на 112 артыкул Канстытуцыі, згодна з якім суды дзейнічаюць на аснове Канстытуцыі і нарматыўных актаў, якія адпавядаюць ёй. Калі падчас разгляду канкрэтнай справы суд бачыць неадпаведнасць нарматыўнага акта Канстытуцыі, то ставіць пытанне аб прызнанні яго неканстытуцыйным.



Падтрымаць Вольгу прыйшлі неабыякавыя вілейчукі. На пярэднім плане – муж Вольгі, Уладзімір Шостак.

Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

### Сведка: Атрымаў заданне маніторыць ютуб-канал

Абаронца Андрэй Барташэвіч звярнуў увагу на тое, што сустрэча, праведзеная 24 жніўня, мітынгам не была. Яго падабаронная не збірала людзей спецыяльна, не вызначала месца, не абараняла падчас сустрэчы асабістыя інтарэсы.

Сведкам па справе выступіў супрацоўнік Вілейскага РАУС **Аляксандр Пушкарэвіч**. Па яго словах, 1 верасня ён атрымаў ад кіраўніцтва заданне праманіторыць ютуб-канал «Вилейка для жизни»:

– Я заўважыў відэазапіс, зроблены на плошчы 24 жніўня. Убачыў там прыкметы правапарушэння. Напісаў пра гэта рапарт свайму начальніку.

Абаронца:

– Чаму вы палічылі Шостак парушальніцай?

Сведка:

– Яна не проста стаяла моўчкі, як большасць людзей. Доўга гутарыла, выказвала перакананні. Што канкрэтна гаварыла, не памятаю.

Абаронца:

– Чаму вы палічылі дадзенае мерапрыемства масавым?

Сведка:

– Там былі бел-чырвона-белыя сцягі.

Абаронца:

– Для вас крытэрый масавага мерапрыемства – бел-чырвона-белы сцяг? Які дакумент пацвярджае гэта?

Сведка:

– Я гэтага не казаў.

Абаронца:

– Як вы вызначылі, што людзі спецыяльна прыйшлі? Можа, яны выпадкова сабраліся?

Сведка:

– Гэта не было падобна на выпадковасць. Далейшай праверкі я не праводзіў. Склаў рапарт і перадаў кіраўніцтву. І ўсё.

Суд вывучыў пісьмовыя дакументы па справе, прагледзеў стрым з мерапрыемства 24 жніўня.

Пастанавілі на Вольгу Шостак накласці штраф у памеры 20 базавых – 540 рублёў.



Па словах Вольгі, Дошку гонару яна сфатаграфавала сабе на памяць. І не думала, што здымак прыйдзецца выкарыстоўваць у судзе. Яе фота – у другім радзе, пасярэдзіне.

Фота забяспечанае Вольгай ШОСТАК.

## Вольга Шостак: Праўда і сумленне павінны перамагчы

**Пасля суда мы пагутарылі з Вольгай.**

**– Ці чакалі вы такога прыгавору?**

– Ведала дакладна, што будзе штраф. Але спадзявалася на меншую суму. Усё ж я законапаслухмяная грамадзянка. Гэты быў мой першы суд.

**– У зале суда было шмат людзей. Хто прыйшоў вас падтрымаць?**

– Звычайныя неабыякавыя вілейчукі, з якімі я пазнаёмілася гэтым летам, калі яшчэ мірныя акцыі былі дазволеныя. Былі таксама і знаёмыя настаўнікі. Дзякуй землякам за падтрымку.

**– Ці будзеце вы абскарджваць прыгавор?**

– Абавязкова. Я не лічу сябе вінаватай. Я шукала і шукаю дыялог паміж дэпутатамі і выбаршчыкамі. Лічу, што праўда і сумленне павінны перамагчы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Якія святы і памятныя даты адзначаюць у Германіі восенню

**Восень – не толькі сезон дажджоў і халадоў. У Германіі – гэта час, багаты на розныя святы.**

### Дзень ведаў і Актобэрфэст

Святочны сезон пачынае Дзень ведаў. У Германіі бацькі на гэта свята дораць дзецям вялікія пакункі ў выглядзе конуса, даверху запоўненыя ласункамі. Кажуць, каб вучоба ў школе была салодкая.

**Актобэрфэст – галоўны піўны фестываль Германіі. Свята называюць найбуйнейшым народным гуляннем у свеце.**



Фота omniworld.ru.

Падчас Актобэрфэсту.

Актобэрфэст святкуюць ужо больш за дзвесце гадоў у Мюнхене. Упершыню свята зладзілі 12 кастрычніка 1810 года ў гонар вяселля прынца Людвіга і прынцэсы Тэрэзы. Часам свята адмянялі з-за войнаў або эпідэмій. Першапачаткова фэст ладзілі ў кастрычніку. Адсюль назва Oktoberfest – кастрычніцкае свята. Але ў канцы 19 стагоддзя перанеслі на сярэдзіну верасня, бо ў гэты час тут больш камфортнае надвор'е.

У 1980 годзе ў выніку тэракту ля галоўнага ўвахода на Актобэрфэст загінула 13 і было паранена больш за 200 наведнікаў. Тэрарыст, правы экстрэміст **Гундольф Кёлер**, таксама загінуў падчас выбуху. Тым не менш, гэты тэрарыстычны акт не прывёў да адмены свята. Па выніках афіцыйнага расследавання лічыцца, што тэрарыст дзейнічаў у адзіночку, але да гэтага часу ёсць сумневы ў правільнасці афіцыйнай версіі.

Свята аматары піва ад мюнхенскай піваварні адзначаюць на працягу амаль трох тыдняў. Традыцыйна ў першую раніцу фестывалю пачынаецца шэсце гаспадароў піўных намётаў. А роўна ў 12 гадзін дзе гарматнымі залпамі афіцыйна адкрываюць пеннае свята.

Пазней больш за восем тысяч апранутых у гістарычныя і карнавальныя касцюмы людзей пад гукі аркестраў праходзяць ад будынка парламента Баварыі да лугу Тэрэзы – плошчы ў Мюнхене. Тут і чакае сваіх гасцей мноства намётаў з півам, кілбасамі, сасіскамі і іншымі закускамі. Для ахвотных працуюць атракцыёны.

### Дзень адзінства Германіі і свята Кірмеса

Дзень адзінства Германіі адзначаюць 3 кастрычніка – дзень, калі падпісалі Дагавор пра аб'яднанне краіны і ГДР увайшла ў склад ФРГ. Свята існуе ад 1990 года.

**Гэты дзень у Германіі з'яўляецца нерабочым. У Берліне і некаторых іншых гарадах ладзяць музычныя выступленні і святочны салют.**

Дзень Кірмеса адзначаюць у трэцюю нядзелю кастрычніка. Гэта старадаўняе свята прысвечанае збору ўраджаю. Кірмесам называюць галоўнага героя свята – саламянае пудзіла з бутэлькай шнапсу ў руцэ. За пару тыдняў пудзіла закопваюць у зямлю, а на свята дастаюць і прымацоўваюць да верхавіны ўпрыгожанага дрэва. Мерапрыемства суправаджаецца танцамі, спевамі, гульнямі, набажэнствамі.

**На наступны дзень пудзіла зноў закопваюць у зямлю з кавалкамі пірага, асколкамі шклянкі, галавой пеўня і ўсё той жа бутэлькай шнапсу. Гэта своеасаблівая ахвяра зямлі за добры ўраджай.**

Свята адзначаюць у гарадах і сельскай мясцовасці, асабліва ярка – у Дзюсельдорфе.

### Хэлоўін і Дзень усіх святых, 31 кастрычніка – 1 лістапада

У Германіі любяць напярэдадні Дня ўсіх святых пераапранацца ў нячысцікаў і іншыя страшныя карнавальныя касцюмы. Не абыходзіцца без падсвечніка з гарбуза і традыцыйных пачастункаў.

Самая грандыёзная вечарынка звычайна праводзіцца ў замку Франкенштэйна, што месціцца на вяршыні амаль чатырохметровай гары масіву Одэнвальд, у зямлі Гесэн. Замак вядомы з 13 стагоддзя.

**1 лістапада немцы наведваюць магілы сваякоў-нябожчыкаў, каб ушанаваць іх памяць. У некаторых раёнах краіны 1 лістапада – выхадны дзень.**

### Дзень усенароднай жалобы

Памятную дату адзначаюць 18 лістапада. У 1919 годзе Народны саюз Германіі па доглядзе за ваеннымі пахаваннямі прапанаваў адзначаць дзень памяці загінулых у Першай сусветнай вайне. Упершыню яго адзначылі ў рэйхстагу ў 1922 годзе. Ад 1926 года яго сталі адзначаць па ўсёй краіне ў другую нядзелю Вялікага посту.

Пасля прыходу нацыстаў да ўлады ў 1934 годзе гэты дзень быў перайменаваны ў Дзень памяці герояў (Heldengedenktag). Ад 1939 яго сталі адзначаць 16 сакавіка. Апошні раз адзначылі ў 1945 годзе.

**Ад 1948 года ў Заходняй Германіі зноў сталі адзначаць Усенародны дзень смутку, цяпер ужо па ахвярах як Першай сусветнай, так і Другой сусветнай войнаў.**

А з 1952 года дату пачалі адзначаць у перадапошнюю нядзелю перад першым днём Адвенту – калядныга посту. У гэтыя дні па традыцыі належыць думаць аб смерці, часе і вечнасці.

Сёння гэта дата прысвечаная не толькі ахвярам войнаў, але і ахвярам дзяржаўнага гвалту.

18 лістапада прэзідэнт Германіі робіць прамову ў прысутнасці членаў урада і замежных дыпламатаў. Пасля гэтага гучыць Гімн Германіі і песня Der gute Kamerad – «Добры таварыш» – нямецкі вайсковы жалобны марш, напісаны ў 19 стагоддзі. Па ўсёй краіне ўрачыста ўскладаюць вянкі да мемарыялаў.

### «Пятая пара года» – 11 лістапада ў 11:11

Па старадаўняй традыцыі «пятая пара года» пачынаецца штогод 11 лістапада ў 11:11.

**Фармальна ад гэтага часу ўлада перадаецца жанчынам. Яны штурмуюць гарадскую ратушу і зразаюць гальштукі мужчынам, якія трапляюцца ім на шляху.**

«Пятая пара года» азначае пачатак падрыхтоўкі да калядных гулянняў і адкрыццё сезона фестываляў. Сезон доўжыцца да лютага і завяршаецца карнавалам.

Падрыхтавала **Аксана ЯРАШОНАК** паводле omniworld.ru.




# Калі вы заблукалі ў лесе

**Лес – выдатная магчымасць адпачыць у месцах, далёкіх ад шумнага горада. Але лес поўны нечаканасцей, і тут трэба быць уважлівым і асцярожным.**

Важнай умовай бяспекі з'яўляецца ўменне чалавека арыентавацца на мясцовасці. Уявіце, вы пайшлі ў лес і заблукалі. Неабходна вырашыць наступныя задачы: зарыентавацца, здабыць ваду і агонь, абараніцца ад холаду, арганізаваць начлег.

### Што рабіць, калі згубіліся

Калі ў вас з сабой сотавы тэлефон, набярыце нумар службы выратавання і паведаміце, з якога населенага пункта і якога раёна ўвайшлі ў лес, апішыце, што бачыце па баках.

Калі апынуліся ў лесе без компаса, тэлефона, а сваё месцазнаходжанне не можаце вызначыць нават прыблізна, спыніцеся і супакойцеся.

Галоўнае для вас – выйсці да людзей, таму важнымі арыенцірамі будуць лініі электраперадачы, сцяжынкі і дарогі. Калі заўважылі любы з гэтых аб'ектаў, ідзіце ўздоўж яго, і вы абавязкова знойдзеце людзей.

**Калі сцяжынка добра ўтаптаная, але кусты змыкаюцца над ёй на вышыні пояса – гэта звярыная сцежка, якая да жылля не прывядзе.**

Калі на шляху сустрэўся ручай або рака, ідзіце ўніз па плыні – яна заўсёды прывядзе да людзей. Каб ісці прама, а не кружыць увесь час, сумяшчайце ў полі зроку два пройдзеных аб'екты. А самае надзейнае – ісці на гук. Прыслухайцеся: шум трактара чуваць за 3-4 кіламетры, брэх сабакі – за 2-3, цягнік у руху – за дзесяць.

### Што рабіць ноччу

Не варта выбірацца з лесу ноччу: пачынае цямнець – лепш займіцеся ўладкаваннем месца для начлегу. Для гэтага падыдзе яма ад вывернутага з коранем дрэва. З галінак зрабіце пристанішча накшталт будана і посцілку з падручных матэрыялаў. Дарэчы, аб барацьбе з холадам. Ліст газеты пад вопраткай зменшыць цеплааддачу ўдвая. Такі ж эфект дае і лісце, набітае пад адзенне.

Цяпер пра ежу. Звычайна чалавек можа абыходзіцца без ежы два тыдні.

**Людзі, якія жывуць у горадзе, дрэнна разбіраюцца, што ў лесе ядомае, а што не. Таму самае галоўнае – не рызыкаваць, і калі няма прадуктаў, лепш галадаць.**

Непрыемныя адчуванні – млоснасць, галаўны боль пройдуць на другія суткі. Па магчымасці піце ваду і рухайцеся да мэты.

Калі вы спадзяваецеся на ратавальнікаў, родных ці сяброў, заставайцеся на месцы. Арганізуючы начлег, паклапаціцеся, каб тыя, хто шукае вас, не прайшлі міма – павесьце на кусты насоўку, ліст паперы, абламайце галінкі, патрыце травой ствалы дрэў.

### Калі здарыўся лясны пажар

Яшчэ адна вельмі непрыемная нечаканасць, якая можа напаткаць у лесе – гэта лясны пажар. Сутыкнуцца з ім можа абсалютна любы чалавек, таму гатовым трэба быць і да такой экстрэмальнай сітуацыі.

У выпадку такога здарэння, перш за ўсё, ацаніце абстаноўку. Пакідаючы месца пажару, ідзіце насустрач ветру, перпендыкулярна краю пажару, па сцежках, дарогах, палянах, берагах ручаёў і рэк. Пры моцным задымленні, калі ў вас ёсць такая магчымасць, закрыйце рот і нос мокрай анучай. Калі ёсць магчымасць, адразу паведаміце пра здарэнне ў службу выратавання па тэлефоне 101.

**Калі ж узгаранне невялікае і вы ўпэўненыя ў сваіх сілах, паспрабуйце затушыць яго самастойна. Часам дастаткова проста затаптаць полымя.**

Калі ж падобныя дзеянні ні да чаго не прывялі, паспрабуйце заліць агонь вадой з бліжэйшага вадаёма або засыпаць зямлёй. Таксама выкарыстоўвайце пучкі галінак ад дрэў ліcцёвых парод, шчыльную тканіну або мокрую вопратку.

**Наносьце ўдары па краі агню збоку, у бок ачага пажару, як бы змятаючы полымя. Галіны, тканіну пераварочвайце пасля кожнага ўдару, каб яны не загарэліся.**

Патушыўшы, не сыходзьце да таго часу, пакуль не пераканаецеся, што агонь не разгарыцца зноў. Паведаміце ў лясніцтва ці лясгас пра месца і час пажару, а таксама аб магчымых яго прычынах.

### Калі збіраецеся ў лес, выконвайце наступныя рэкамендацыі:

– па магчымасці не адпраўляйцеся ў лес адной або аднаму;

– навучыцеся карыстацца компасам, вывучыце асноўныя правілы арыентавання ў лесе;

– улічвайце ўмовы надвор'я. У пахмурнае надвор'е паход лепш адкласці;

– апранайце зручнае, непрамакальнае адзенне і абутак;

– вазьміце з сабой компас, тэлефон, ваду, лекі, нож, запалкі;

– паведаміце сваякам або знаёмым пра меркаваны маршрут і час вяртання, своечасова інфармуйце іх, калі планы змяніліся;

**– перш чым паглыбіцца ў лес, звярніце ўвагу на сонца, запомніце, з якога боку яно свеціць. Калі сонца справа, то пры выхадзе ў тым жа кірунку з лесу трэба, каб яно апынулася злева.**

Пры затрымцы ў лесе больш за гадзіну з прычыны вярчэння Зямлі сонца падаецца перасунутым управа. Таму, выходзячы з лесу па сонцы, дадаткова адхіліцеся налева на 15 градусаў за кожную гадзіну знаходжання ў лесе.

**Паводле Маладзечанскага гаррайаддзела МНС.**

# У Маладзечне правялі футбольны турнір у памяць Мікіты Крыўцова

**У нядзелю, 6 верасня, у Маладзечне прайшоў аматарскі турнір па міні-футболе.**

Яго зладзілі ў памяць Мікіты Крыўцова.

Узялі ўдзел восем камандаў з Маладзечна, у тым ліку каманды ФК «Маладзечна» і каманды фанатаў. А таксама: «Маладзечнамэбля», «Лакаматыў», Old School, «Металург», «Аўтамабіліст», «Леон», якія гуляюць у чэмпіянаце горада. У фінале сустрэліся ФК «Маладзечна» і Old School.

Без сенсацый перамогу атрымалі зялёна-белыя, але перадалі кубак камандзе фанатаў. Удзельнікі турніру сказалі шмат цёплых слоў у адрас Мікіты. Вырашылі зрабіць турнір штогадовым, з пашырэннем геаграфіі ўдзельнікаў.

Мікіту Крыўцова знайшлі павешаным 22 жніўня. Крыўцоў быў фанатам ФК «Маладзечна». Яго сябры былі на турніры ў футболках з партрэтам Мікіты.

**Андрэй РАГІНСКІ.**
**Фота аўтара.**




Падчас турніру.

## «Цмокі» сталі чэмпіёнамі Беларусі ў 12-ы раз

У нядзелю, 6 верасня, прайшлі фінальныя гульні чэмпіянату Беларусі па баскетболе сярод мужчынскім камандаў.

Сталічныя «Цмокі» не пакінулі шанцаў магілёўскаму «Барысфену» ў галоўным матчы «фіналу чатырох» чэмпіянату Беларусі. Яны перамаглі магіляўчан з лікам **92:53**. Такім чынам, «Цмокі» заваявалі 12-ы тытул чэмпіёнаў краіны ў клубнай гісторыі.

Самым выніковым гульцом фінальнага матча стаў **Максім Салаш** з 26 ачкамі, 9 падборамі, 4 перадачамі.

«Гродна-93» абыграў «Рубон» – **67:60**, стаў бронзавым прызёрам.

**«Цмокі-Мінск» – «Барысфен» – 92:53 (18:14, 19:11, 31:14, 24:14).**

**«Рубон» – «Гродна-93» – 60:67 (15:21, 11:22, 15:11, 19:13).**

**Настасся УТКІНА.**

## Азаранка выйшла ў чвэрцьфінал US Open

У матчы 1/8 фіналу US Open беларуская тэнісістка **Вікторыя Азаранка** была мацнейшая за **Караліну Мухаву** з Чэхіі.

Вікторыя Азаранка – Караліна Мухава – 5:7, 6:1, 6:4.

У матчы 1/4 фіналу турніру беларуска згуляе з **Эліс Мертэнс**.

## «Крумкачоў» аштрафавалі

«Крумкачоў» аштрафавалі на 3375 рублёў за матч з мінскім «Дынама». Футбалісты выйшлі на матч ў майках з надпісамі «Мы супраць гвалту». Афіцыйная падстава – «затрымаліся на матч».

Раней гульцоў «Крумкачоў» **Сяргея Казеку** і **Паўла Расольку** затрымалі падчас мітынгу ў Мінску і збілі.

**Паводле pressball.by.**

## Знакамітая пазіцыя абата Сааведры

**У 1875 годзе ў Англіі была згуляная партыя, якая прыйшла да цікавай пазіцыі. Віталь Качаткоў распавядае пра гэту гісторыю.**



Тады праціўнікі пагадзіліся на нічыю, таму што лічылі, што ні ў каго з іх не было магчымасці выйграць партыю.

Неўзабаве партыя трапілася на вочы **Ёганэсу Цукерторту** – аднаму з наймацнейшых шахматыстаў таго часу, саперніку **Стэйніца** ў першым афіцыйным матчы на першынство свету.

Цукерторт апублікаваў гэту пазіцыю, паказаўшы нескладаны шлях да выйгрышу белых. Справа ў тым, што, варухнуўшы наперад пешку «с6-с7», белыя на шахі ладдзёй спакойна адступаюць уніз каралём па лініі «с». Нарэшце, яны гуляюць Крс2 і праводзяць ферзя.

Прайшло 20 гадоў. Прафесар французскай мовы **Барбье**, разбіраючы гэту ідэю, знайшоў падобную пазіцыю, у якой выявілася дзіўна прыгожая магчымасць выратавання для чорных.

**1. С6-с7 Лd6 + 2. Крb5 Лd5 + 3. Крb4 Лd4 + 4. Крb3 Лd3 + 5. Крс2.**

Здаецца, усё скончана, і белыя выйграюць, але **5. Лd4**.

І зараз, калі белыя ставяць ферзя, варта: **6. Лс4 + 7. Фхс4** – Пат!

Барбье, у сваю чаргу, апублікаваў новую пазіцыю з падрабязным каментарыем. Газету ўбачыў каталіцкі святар – абат Сааведра. Трэба заўважыць, што ў тыя часы царква вельмі нядобразычліва ставілася да шахмат. У многіх краінах пад ціскам «святых інквізітараў» гульня была пад забаронай.

Тым не менш, многія з «святых айцоў», напрыклад, знакаміты кардынал Рышэльe, самі няблага гулялі ў шахматы! Сааведра, які гуляў у шахматы даволі слаба, разгледзеў тое, што не заўважылі многія знакамітыя шахматысты – у пазіцыі на дыяграме белыя ўсё ж такі выйграюць.

Святар наведаў шахматны клуб горада Глазга і пазнаёміў членаў клуба са сваім адкрыццём. Такім чынам, святар абяссмерціў сваё імя. Што ж знайшоў абат Сааведра?

**Віталь КАЧАТКОЎ, Маладзечна, майстар спорту.**
**Ілюстрацыя аўтара.**




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

4. Найбольш гэтых жывёл у Аўстраліі. Яны прыносяць ад 4 да 6 кілаграмаў карысці за год, не ўлічваючы мяса.
5. Мат, вакзал, мабіль, партрэт, спын. Якое слова трэба дадаць перад гэтымі, каб атрымаць новыя?
6. Для таго, каб перапісвацца пад вадой, Жак Іў Кусто выкарыстоўваў аловак для грыму і белую яе.
11. Прымус.
12. Першыя еўрапейскія наведнікі Новай Галандыі запэўнівалі, што краіна заселеная істотамі, якія ўяўляюць сабой сумесь аленя, птушкі і жабы. Што гэта за жывёла?
13. Аргенцінскі бальны танец.
14. За апошнія 300 год на Зямлі іх знішчылі дзве трэці.
16. Спевы.
18. Распазнавальны знак дзяржавы, горада, дваранскага роду.
20. Чалавек, які мае аднолькавае з кім-небудзь імя.
22. Істотна.
23. Сукупнасць звязаных паміж сабой дзеянняў, падзей.
24. Якая частка французскага педагога П'ера дэ Кубертэна знаходзіцца ў адмыслова збудаванай стэле ў Свяшчэнным гаі?

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Тое, што баіцца майстар.
2. Запалка.
3. Спецыяліст, рабочы, які працуе на машыне.
7. Каб не дзірка ў роце, хадзіў бы ў ...
8. Назва адной са скульптур з каменя, усталяванай сёлета ў Мядзеле.
9. Вертыкальная частка будынка, якая служыць для падтрымкі перакрыццяў і для падзелу памяшкання на часткі.
10. Вада ў стане кіпення, ускіпелая гарачая вада.
15. Населены пункт у сельскай мясцовасці (пасёлак, сяло).
16. Дуда.
17. Былая мера зямлі (каля 20 дзесяцін, прыблізна 21 га).
19. Два металічныя звяны, якія прымацоўваюцца да рамянёў аброці і служаць для закілзвання каня.
21. У збяднелага шляхціча з ... Ні гарэлкі няма для сугрэву, Ні гуркоў, ні маслін, Ані іншых раслін, – Акрамя геральдычнага дрэва.
23. Спрошчаны чарцёж, які перадае сістэму, пабудову, сувязь частак.
24. Толькі што надоенае, яшчэ цёплае малако.
25. У спякотнай пустыні да яго заўсёды два-тры кіламетры.
26. Заснаваны на ўраўняльным перадзеле прыватнай уласнасці.

## Адказы на крыжаванку з №36

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Рэферэндум. 3. Герынг. 5. Грунвальд. 8. Полацк. 9. Дзяржынскі. 10. Сярэднявечча. 12. Грамата. 15. Шушкевіч. 16. Песня. 17. Радзівілы. 20. Пагоня. 22. Унія. 24. Брэст. 25. Міндоўг.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Гедымін. 4. Брусілаў. 6. Польшча. 7. Бунд. 11. Мінск. 13. Дрыгавічы. 14. Клаўдзій. 15. Шляхта. 18. Сцяг. 19. Антанта. 20. Панятоўскі. 21. Літбел. 23. Нагасакі.

## ● ГАРАСКОП НА 11-17 ВЕРАСНЯ

**АВЕН.** Пачатак тыдня будзе насычаны і абяцае шмат адкрыццяў. Клопатаў будзе больш, чым звычайна, але разам з тым усе яны будуць важныя і ў пэўнай ступені прыемныя. Вы адчуеце, наколькі важны ваш уплыў на іншых людзей, і што часам нішто не лечыць лепш за слова.

**ЦЯЛЕЦ.** У гэты перыяд будзе складана разабрацца з патокам усёй інфармацыі, што будзе да вас прыходзіць. Але менавіта на аснове гэтых звестак давядзецца будаваць аргументацыю сваіх учынкаў. Так што будзьце ўважлівыя з тым, што чытаеце і слухаеце.

**БЛІЗНЯТЫ.** Падзеі будуць выклікаць шмат эмоцый, якія немагчыма будзе стрымаць. І не стрымлівайце сябе ў гэтым, але перш чым прыняць рашэнне, добра ўзважце яго, усе плюсы і мінусы наступстваў. Пастарайцеся не крыўдзіцца без прычыны.

**РАК.** Для вас гэты перыяд абяцае шмат знаёмстваў. Людзі, якія раней вас недаацэньвалі, убачаць вас у новым святле. Такія абставіны добра сыграюць вам на руку і дапамогуць у дасягненні бліжэйшых мэт. Для многіх вы станеце крыніцай натхнення.

**ЛЕЎ.** Будзьце адкрытыя для знаёмстваў. Яны могуць быць не толькі прыемныя, але і карысныя ў доўгатэрміновай перспектыве. Таксама зоркі раяць знайсці час для творчага вечара, калі вы зможаце і адпачыць, і даць сабе працу па душы.

**ДЗЕВА.** Якія б перашкоды ні былі на вашым шляху, знаходзьце спосаб іх абысці і ісці далей да мэты. Спатрэбіцца адстойваць сваю пазіцыю. Памятайце, што ветлівасць і аргументацыя фактамі – вашы лепшыя сябры.

**ШАЛІ.** Пастарайцеся не спяшацца ў дзеяннях і высновах. Важна не марнаваць час на справы, якія магчыма вырашыць без вашага ўдзелу. У рамантычнай сферы чакаюцца прыемныя навіны.

**СКАРПІЁН.** Вам будзе ў многім шанцаваць. З боку можа падавацца, што ўдача сама плыве вам у рукі. Але на самой справе гэта вынік напружанай працы, якую вы выканалі раней. Адказы на хвалюючыя пытанні шукайце ў сваім сэрцы, яно ўсё пра вас ведае.

**СТРАЛЕЦ.** Калі выбар будзе складаны, не саромейцеся прасіць парады. Але прасіце толькі ў тых, каму давяраеце. Магчымыя рознагалоссі з калегамі, але не варта ўзрушацца на пустым месцы.

**КАЗЯРОГ.** Вы можаце аказацца ў неадназначнай сітуацыі. Вашы апошнія набыткі моцна дапамогуць выйсці з яе пераможцам і стаць яшчэ больш дасведчаным у сваёй справе. Часам складанасць – тое, што нас робіць мацнейшым.

**ВАДАЛЕЙ.** Вас будзе хваляваць фінансавы спектр, і нездарма. Магчыма, у вас атрымаецца знайсці добрае рашэнне для таго, як размеркаваць рэсурсы. У кожным разе абдумвайце свае ўкладанні.

**РЫБЫ.** Будзе шмат інтэлектуальнай працы, важнай для значнай колькасці людзей. Узважвайце словы і аналізуйце падзеі. Многія спадзяюцца на вашу разважлівасць.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 7 | | 9 | 5 | | 6 | | |
| | 6 | | | 4 | | 8 | | |
| | 2 | | | | | 5 | | |
| 1 | | 7 | 8 | | | | 9 | |
| | | | | 7 | | 1 | 8 | |
| 5 | | 9 | | 1 | | | | 3 |
| | | 8 | | 3 | 1 | | 6 | |
| | | 2 | | | 4 | 3 | | |
| 6 | | | | 9 | | | | 4 |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

# Рэгіянальная газета. Rh.by




## Адкрылі новы дзіцячы садок у Івянцы

ВАЛОЖЫН

**У Івянцы 10 верасня адкрылі дашкольны цэнтр развіцця дзіцяці.**

Установа разлічаная на 230 дзяцей, для якіх укамплектаваныя 11 груп у залежнасці ад узросту: дзве групы для малых ва ўзросце ад двух да трох гадоў, дзве – ад трох да чатырох гадоў, чатыры – ад чатырох да пяці гадоў, тры – ад пяці да шасці гадоў.

У садку ёсць басейн, фізкультурная, музычная і харэаграфічная залы.

Ва ўстанове будуць працаваць пункт карэкцыйна-педагагічнай дапамогі, сэнсарны пакой, памяшканні для адаптацыйнай групы, лаўнж-зона – места для адпачынку і рэлаксацыі выхаванцаў.

Для педагогаў створаныя рэсурсныя цэнтры, інфармацыйна-метадычны цэнтр.

У двары ўстановы абсталяваныя гульнявыя пляцоўкі з верандамі і ценявымі падстрэшкамі, а таксама спецыяльныя пляцоўкі – агульная фізкультурная і для вывучэння Правілаў дарожнага руху.

Ва ўстанове будзе працаваць абсталяваны сучасным тэхналагічным абсталяваннем харчблок і медыцынскі блок, паведамляюць у Галоўным упраўленні адукацыі Мінаблвыканкама.

Цэнтр пабудаваны за кошт рэспубліканскага і абласнога бюджэтаў.

**Аддзел інфармацыі.**



## Чытайце праз тыдзень:

**• Якія вакансіі і заробкі прапануюць у рэгіёнах. Дзе можна зарабіць тысячу рублёў?**

## 12 верасня, субота

**Вецер:** паўднёва-заходні, 5-6 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВАЛОЖЫН**

Мінімальная тэмпература +3,5°С у 1986 годзе
Максімальная тэмпература +26,2°С у 2012 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 12,1 мм у 2001 годзе

Паводле meteoinfo.by.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

## Ці носіце вы пашпарт з сабой і для чаго?



**Руслан Цыбоўскі, станочнік, Смаргонь:**
– З сабой не нашу, але ў машыне заўсёды ляжыць.



**Вольга Мацюшонак, візажыст, Маладзечна:**
– Заўсёды нашу з сабой. Бывае, часам і патрэбны тэрмінова: нешта аплаціць або пасылку забраць па дарозе.



**Вікторыя Маліноўская, настаўніца, Маладзечна:**
– Я работнік адукацыі і заўсёды патрэбны пашпарт – для школ, дакументаў, рэгістрацый.



**Павел Карней, кіроўца, Смаргонь:**
– Нашу заўсёды, таму што па працы патрэбны.



**Андрэй Дзяруга, інжынер-электрык, Вілейка:**
– Не.



**Наталля Дашкевіч, бухгалтар, Маладзечна:**
– Так, нашу пашпарт з сабой. Ён мне патрэбны для працы, то нашу.



**Таццяна Ляскоўская, настаўніца, Маладзечна:**
– Нашу. Ён заўсёды ляжыць у мяне ў кашальку. Вось толькі для чаго, нават не ведаю. Напэўна, там яго месца. І я заўсёды ведаю, дзе мой пашпарт.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№37 (1324) 11.09.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1523. Падпісана ў друк у 9.00 10.09.2020.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.